PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1850) 27 КАСТРЫЧНІКА 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



*Бельская „Маланка"--адзін светлы момант адкрыцця культурна - асветнага года.*

## ПАЧАТАК КУЛЬТУРНАГА ГОДА Ў БГКТ

13 кастрычніка ў Гайнаўцы Беларускае грамадска-культурнае таварыства распачало культурна-асветны год 1991/92. Горшы дзень на такую ўрачыстасць было б знайсці цяжка — гайнаўляне адзначалі сваё прыхадское свята Нечаяную радасць і былі ў гэты час у царкве. Месца сустрэчы прадвызначыла галоўную тэму дыскусіі — Беларускі музей.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандр Баршчэўскі ў сваім прывітальным слове сказаў, што гісторыя пабудовы музея гэта гісторыя крызісаў. Усё пачалося шэсць гадоў таму назад, калі цяперашні старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея Кастусь Майсеня стаў на кучы грузу і заявіў: „Тут будзе

( Працяг на стар. 6 )

## НАМІ КАРЫСТАЛАСЯ ЦРУ*

**У днях 27-29 верасня гэтага года адбыўся ў Белавежы сімпозіум з удзелам лідэраў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, лідэраў Беларускага народнага фронту і парламентарнай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі ды з удзелам прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. На сустрэчу гэту прыехаў з Мюнхена спадар ВЯЧАСЛАЎ СТАНКЕВІЧ, які выступіў з дакладам „Змены палітыкі Захаду адносна Беларусі". Спадар Станкевіч — кіраўнік Беларускай службы Радыё „Свабода".**

*— Калі і з якою мэтай заснавана радыёстанцыя „Свабода"?*

**Вячаслаў Станкевіч:** Радыё „Свабода" было заснавана ў пачатку пяцідзесятых гадоў — гэта адна частка радыёстанцыі. Другая яе частка — Радыё „Вольная Еўропа". Радыё „Свабода" вяшчае для народаў былога Савецкага Саюза, „Вольная Еўропа" — для былых сатэліцкіх краін. Мэта дзейнасці радыёстанцыі — даць людзям за жалезнай заслонай** сапраўдную інфармацыю. Радыё „Свабода", у адрозненні ад „Голасу Амерыкі", не з'яўляецца ўстановай, якая падае інфармацыю аб Амерыцы, а наадварот — „Свабода" падае цяпер інфармацыю з нутра краіны, для якой вяшчае. Прыкладна, у выпадку Польшчы, характар гэтай інфармацыі змяніўся, бо ўсё-такі ў Польшчы ёсць вольная прэса, а ў былым Савецкім Саюзе — гэта яшчэ не поўнасцю так. Дзеля таго мы выконваем вельмі важную ролю, каб інфармаваць людзей у Беларусі аб тым, што адбываецца, якое значэнне гэтых падзей ды гэтаму падобнае. У той самы час інфармуем таксама аб падзеях у свеце. Мая лучнасць з Радыё „Свабода" — тры гады.

*— Самыя цікавыя гады...*

— Так, у гэты час шмат што адбылося ў свеце, асабліва ва Усходняй Еўропе. Праца ў Радыё „Свабода" дае магчымасць быць у курсе палітычных падзей у свеце ды інфармаваць аб гэтых падзеях людзей, якія такой інфармацыі пазбаўлены. Асабіста адчуваю сябе вельмі добра азнаёмленым з тым адраджэннем, якое пачалося з ініцыятывы Беларускага народнага фронту і працягваецца далей.

*— Адно ўдакладненне: паміж „Свабодай" і „Вольнай Еўропай" фізічнай розніцы няма, розніца ў накіраванасці інфармацыі?..*

— Так, абедзве ўстановы пад адным менеджментам, працуем у тым самым будынку, карыстаемся той самай тэхнікай, тымі самымі антэнамі і гэтак далей. Апошнім часам некаторыя часткі „Вольнай Еўропы", як польская, венгерская, чэхаславацкая, транслююць з месца, дзе знаходзіцца іхняя аўдыторыя — з Варшавы, Прагі,

( Працяг на стар. 7 )

## „НАШЫ" ЎКРАІНЦЫ

Гэтыя разважанні выклікаты перш за ўсё матэрыяламі, змешчанымі ў квартальніку Ваяводскага дома культуры ў Беластоку „Dyskusja" (październik — grudzień, 1990) пад агульнай назвай „Ukraińcy na Podlasiu". Не ўсе тыя тэксты суадносяцца непасрэдна з анатаванай у назве выпуску тэмай (напрыклад, „Podlasie, Prawosławie, Ukraina", які з'яўляецца адно пакручастай „Філалагічнай" падтасоўкай пад праблему „падляшскіх украінцаў", ці „Polska i Ukraina, co dalej?" — пра міждзяржаўныя польска-ўкраінскія дачыненні), таму яны застануцца збоч маіх занатовак наконт своеасаблівага змагання „за душы" між Бугам і Нарвай. Пры іншых тэкстах запынюся толькі над тымі аспектамі, якія ў наш распалітыкаваны час набываюць асаблівa актуальнае значэнне.

Беларускасць на паўночным Падляшшы — гэта ілюзія. Да такой высновы падводзіць нас Ежы Гаўрылюк у тэксце „Być albo nie być" podlaskich Ukraińców". Гэтую ілюзію заснавалі немцы пад час І сусветнай вайны, ствараючы на „украінскім этнічным арэале" беларускія школы, падтрымлівалі яе ў міжваенны перыяд беларускія камуністычныя і левыя палітычныя арганізацыі, а пасля апошняй вайны ўгрунтавалі польскія камуністы (праз навучанне беларускай мовы, БГКТ і „Ніву"). Ага, і Сталін да гэтага таксама прыклаў руку, правёўшы межы БССР „паводле старых мапаў". Словам, міжнародная змова немцаў, палякаў, беларусаў і аднаго грузіна.

На гэткім фоне народ між Бугам і Нарвай явіцца як нейкая маса без волі, якая дзесяткамі гадоў паддавалася беларускай маніпуляцыі і не знаходзіла сваіх „украінскіх каранёў".

Улюбёным прыёмам „нашых" украінцаў, акрамя спасылак на дыялекталагічныя працы і атласы, з'яўляецца цытаванне сацыёлага з Рыбалаў У. Паўлючока, які на схіле гамулкаўскай эпохі прыйшоў да высновы, што акрэсленне „я — беларус" на Беласточчыне ніякім чынам не спалучаецца з агульнанацыянальнымі беларускімі вартасцямі, з беларускай культурай і мовай. Тэзіс гэты, які ў свой час характарызаваў хутчэй за ўсё агульную кандыцыю нацыянальнай беларускай культуры ў эпоху брэжнявізму, чымсьці стан ідэнтыфікацыі з ёю на Беласточчыне, ніяк не спалучаў гэтай сітуацыі з нібыта ўкраінскім характарам насельніцтва. Ён знакаміта служыў адно „тэарэтычным абгрунтаваннем" ідэалагічнай устаноўкі Герка аб нацыянальна аднароднай дзяржаве ў дачыненні якраз да Беласточчыны.

( Працяг на стар. 6 )

## НА МЯЖЫ

— 59 —

Пабудова Беларускага музея вырасла з ініцыятывы Беларускага грамадска-культурнага таварыства і таму таварыста адыгрывае ў рэалізацыі гэтай ідэі вядучую ролю. Трэба, аднак, сказаць, што быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, які стаўся самастойным у прававым сэнсе органам і якраз ён узяў на свае плечы найбольшы цяжар, звязаны з будоўляй. Я ўжо некалькі разоў называў прозвішча Кастуся Майсені, які быў, ёсць і будзе галоўным будаўніком музея. Аднак трэба сказаць, што побач з ім выступае рад выдатных нашых дзеячоў, якія прыкладаюць усе намаганні для таго, каб музей быў збудаваны і прыступіў да сваёй нармальнай дзейнасці. Сарод гэтых дзеячоў трэба назваць Мікалаюка, Іванюка, Мароза, Аляксея Харкевіча і Сяргея Харкевіча, Сакоўскага і яшчэ некалькі дзесяткаў дзеячоў, якія сэрцам і душой аддадзены Беларускаму музею. Без іх дапамогі і актыўнасці будоўля заглохла б і не ўзнялася б над зямлёй.

На жаль, разам з праявамі прыгожай актыўнасці ў галіне пабудовы Беларускага музея, выступаюць паставы беларусаў, годныя асуджэння і пагарды. Тут хачу дабавіць некалькі новых фактаў. Адзін з выдатных беларускіх дзеячоў, які больш як трыццаць гадоў працаваў на беларускай ніве і ўвесь час атрымліваў за гэта грошы, адказваючы на маё пытанне: „Чаму нічога не даеце

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

на музей"? — адказаў: „Не даю, бо не веру, што ён калі-небудзь паўстане". Нядаўна, будучы ў Мінску ў фондзе культуры ад чалавека, які горача падтрымлівае музей, пані Гаранскай, даведаўся я, што больш чым месяц таму назад паінфармавала яна сакратара Галоўнага праўлення БГКТ Стахвюка аб тым, што каля трыццаці беларускіх установ, фабрык, мастакоў прызначыла некалькі сот прадметаў тыпу: карцін, габеленаў, сурвэтак, абрусоў, мастацкіх вырабаў для таго, каб былі яны пастаўлены ў Беластоку або ў Гайнаўцы на аўкцыён і каб грошы, атрыманыя з аўкцыёна, былі прызначаны на пабудову Беларускага музея. Стахвюк адказаў, што пакуль што не мае часу, каб займацца гэтай справай. Мала гэтага: Стахвюк нават словам не паінфармаваў ані мяне, ані Прэзідыум ГП БГКТ аб гэтай высакароднай ініцыятыве. Пані Гаранская сказала, што ахвярадаўцы безупынна звоняць у Фонд культуры і пытаюць пра лёс падараных прадметаў.

Можа стацца так, што запатрабуюць звароту ўсяго таго, што падарылі. Вось якім каварным чынам гасяцца парывы беларускіх сэрцаў.

Сярод ахвярадаўцаў у фонд Беларускага музея не знаходзім і тых, якія ва ўсё горла атакуюць Беларускае таварыства і па-правадырску навучаюць, якімі шляхамі павінны ісці беларусы. На шчасце, аграмадная большасць беларускіх дзеячоў праяўляе вялікую ахвярнасць. Ахвярнасць гэта мае характар грашовых складчын, фізічнай працы, дараў у форме дрэва, іншых будаўнічых матэрыялаў або ў форме экспанатаў. Нядаўна сказаў мне Майсеня, што актывісты БГКТ і камітэта пабудовы музея звярнуліся да жыхароў адной з вялікіх падгайнаўскіх вёсак. Амаль усе жыхары выключна пазітыўна аднесліся да ідэі дапамогі музею. Многія з жыхароў, якія не мелі грошай (а гэта з'ява сёння вельмі частая) прапанавалі па некалькі цэнтнераў жыта або пшаніцы. І вось, калі сутыкаешся з такімі фактамі, дык як на далоні бачыш усю мізэрнасць тых, хто, кіруючыся сваімі подленькімі інтарэсамі, стараецца ўвапхнуць палку ў колы гэтай высакароднай ініцыятывы.

Так ці інакш, Беларускі музей — будуецца. І ўжо сёння выклікае вялікае ўражанне ў кожным беларускім сэрцы сваёй узнёсласцю і грандыёзнасцю.

Цяжкасці ў нас аграмадныя, але пераможам іх, калі так, як дагэтуль, будзем музей будаваць усімі беларускімі сіламі — і з Усходняй Беласточчыны, і з Беларусі, і з заходніх краін. Узносім Беларускі музей з думкай аб тым, каб быў гонарам усіх беларусаў, каб быў супольным нашым домам, каб сабраў у сабе ўсё найбольш каштоўнае, што стварылі нашы дзяды і прадзеды, каб стаўся сэрцам Цэнтра беларускай культуры ў Польшчы.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

****************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Нямецкі парламент Бундэстаг** рашучай большасцю галасоў ратыфікаваў два польска-нямецкія трактаты: „Аб добрым суседстве і супрацоўніцтве"што і „Аб граніцы".

**Ватыкан** перадаў турыстычнай фірме „Інтурыст" пэўныя сумы грошай як кампенсацыю за кошты падарожжа для 15 тысяч маладых пілігрымаў на сусветную сустрэчу моладзі з папам Янам Паўлам II, адбылася ў жніўні ў Чанстахове. Зараз грошы вяртаюць у Гродне, Брэсце, Менску, Віцебску і Магілёве. Выплачана ўжо 60 тысяч рублёў.

**„З глыбокім сумам і незадавальненнем наглядаем, што выбарчая кампанія праходзіць у нездаровай атмасферы, якая можа многіх сумленных людзей знеахвоціць да ўдзелу ў выбарах —**, пішацца ў заяве Польскай экуменічнай рады, якая гуртуе сем хрысціянскіх Касцёлаў праваслаўнай, старакаталіцкай і пратэстанцкай традыцый. Рада заклікае да выбараў усіх, каму дарагое дабро Айчыны, і раіць галасаваць на тых, хто мае адвагу гаварыць праўду і не маніць перспектывай хуткіх поспехаў.

**„Нашым суайчыннікам у Літве кажу: падпішыце дэкларацыю лаяльнасці да літоўскай дзяржавы, бо гэта ўмова пратрывання польскасці ў Літве,** — заявіў маршалак Сената і адначасна старшыня Польскай супольнасці **Анджэй Стэльмахоўскі**. — Да 3 лістапада кожны жыхар Літвы павінен падпісаць дэкларацыю лаяльнасці, каб атрымаць літоўскае грамадзянства. Без гэтага ніхто не зможа купіць зямлю, або ўзяць яе назад пасля роспуску калгасаў — , **прыпомніў маршалак.**

**Праз гранічны пункт Брузгі — Кузніца-Беластоцкая** не прапускаюцца ў Польшчу грамадзяне Літвы, Латвіі, Эстоніі і Украіны. Такое рашэнне прыняў Абласны выканаўчы камітэт у Гродне, матывуючы патрэбай правесці рамонт дарог і самога пункта ў Брузгах.

**Прафесар Мацей Гертых,** член Нацыянальнай партыі (Stronnictwo Narodowe), на перадвыбарчай сустрэчы ў Беластоку заявіў, што не разумее, чаму ўлады ў Польшчы падтрымоўваюць няпольскія сілы. Палажэнне аб выбарах з ільготамі для нацыянальных меншасцяў прызнаў нязгодным з канстытуцыяй, якая гаворыць аб раўнапраўнасці.

**Выбарчаму камітэту Нацыянальнай партыі ў Беластоку вельмі спадабаўся рэкламны стэнд „Нівы"**, які знаходзіцца перад будынкам рэдакцыі. Людзі з гэтага ж камітэта рэгулярна шчыльна заклейваюць наш стэнд плакатамі свае кандыдаткі ў Сойм **Анны Банькоўскай**, якая заклікае падтрымаць яе ў выбарах. Рэдакцыя не падтрымоўвае ні кандыдатку, ні такія метады вядзення выбарчай кампаніі.

## БЕЛЬВЕДЭР — БЕЛАРУСЬ У ІНТАРЭСАХ

**Прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч сустрэўся ў пятніцу** (11.XI. - рэд.) ў **Бельведэры з прэзідэнтам Лехам Валэнсам.**

Міністр Славамір Сівэк запрапанаваў беларускаму прэм'еру стварыць рэгіёны гаспадарчага развіцця, якія ахапілі б Холмскае, Замойскае і Люблінскае ваяводствы.

Датычыцца гэта галоўным чынам супрацоўніцтва ў галінах сельскай гаспадаркі і лёгкай прамысловасці, якое мог бы каардынаваць спецыяльна створаны „Фонд усходніх зямель", што распараджаўся б польскім, замежным, а таксама — у будучым — і беларускім капіталамі.

Удзел двух банкаў — камерцыйнага і з замежным капіталам — якія б крэдытавалі гэтае супрацоўніцтва, прапанавала ўжо Варшаўская інвестыцыйная група. Гандлёва-прамысловы банк з Кракава заявіў аб гатоўнасці ўключыць беларускі бок у свае бліжэйшыя інвестыцыі: адкрыццё беспошліннай зоны ў Малашэвічах (між Белай-Падляшскай і Тарэспалем) і пабудову таварнага аэрадрома ў Белай-Падляшскай.

(„Gazeta Wyborcza"

ад 14.X.1991 г.)

## РЭПЛІКА

Паведамляю, што з цікавасцю стаў я чытаць рэцэнзію на маю кніжку (Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce, Kraków 1991), змешчаную ў „Ніве" ад 13 кастрычніка 1991 г. (н-р 41) пад загалоўкам „Малы народ пад мікраскопам сацыёлага", якую напісаў Яўген Міраневіч, таму што хацелася мне, каб прачыталі яе беларусы ў Польшчы. Аднак, рэцэнзія гэта поўнасцю мяне расчаравала. Не таму, што аўтар стараўся быць вельмі крытычным і што зусім не перадаў чытачам ісціну працы.

Расчаравала яна мяне таму, што (прашу прабачэння, але я вымушаны пакарыстацца такім акрэсленнем) аўтар праявіў тут сваю выразную непрафесійнасць, а нават дылетанцтва ў галіне сацыялогіі. Баюся, што адносіцца гэта і да інтэрпрэтацыі гісторыі. Вельмі прашу Яўгена Міраневіча, каб захацеў яшчэ раз прачытаць маю працу.

Разумею, што ва ўсім разбірацца немагчыма, але было б лепш, у тым ліку таксама і для рэдакцыі „Нівы", каб аўтары пісалі пра справы, у якіх разбіраюцца.

З прыемнасцю, аднак, прыму ўдзел у сур'ёзнай дыскусіі над кніжкай і над пытаннямі беларусаў у Польшчы.

З павагай

**Андрэй Садоўскі**

## ЗМЕНЫ

### Ў КІРАЎНІЦТВЕ БГКТ

20 кастрычніка г.г. адбыўся пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Даклад на тэму „БГКТ і сучаснасць" прачытаў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Затым сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк прадставіў справаздачу з дзейнасці штатных працаўнікоў ГП БГКТ за апошні год і звярнуўся да пленума з просьбай вызваліць яго з функцыі сакратара ГП, члена Прэзідыума і Галоўнага праўлення БГКТ. Сваё рашэнне матываваў немагчымасцю далейшага супрацоўніцтва са старшынёю ГП. Пленум большасцю галасоў прыхіліўся да просьбы Віктара Стахвюка. У далейшым пленум вызваліў з функцыі намесніка старшыні ГП Аляксандра Іваноўскага, пакідаючы яго далей працаваць у Таварыстве і займацца адміністрацыйнымі справамі і гаспадарчай дзейнасцю.

На вакантныя пасады былі назначаны новыя асобы. Намеснікам старшыні ГП быў выбраны Ян Сычэўскі, а сакратаром ГП — Валянціна Ласкевіч.

Ян Сычэўскі працуе навуковым супрацоўнікам Беластоцкай палітэхнікі. З БГКТ звязаны ад многіх гадоў, актывіст Гарадскога аддзела БГКТ, заснавальнік Клуба беларускай інтэлігенцыі.

Валянціна Ласкевіч працуе спецыялістам па гандлёвых справах на прадпрыемстве „Дом кніжкі". Яна — старшыня Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, арганізатар самадзейнага мастацкага руху.

Аб ходзе пленума чытайце ў наступным нумары „Нівы"!

(л)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Аб Брэсцкай уніі.
* Рэпартаж з Крынак.
* З пленума БГКТ.
* У дапамогу настаўнікам беларускай мовы.
* Пра нашых пісалі.
* Новыя творы Міры Лукшы, Жэні Мартынюк і Андрэя Сцепанюка.
* Парады і гумар.
* Касяк.






# БАС У ФРАНЦЫІ

(заканчэньне)

Тазэ — невялічкая вёска на поўдні Францыі, непадалёк Льёну. У гэтай мясцовасьці ў 1940 годзе пасяліўся малады манах, брат Ражэ. У час вайны памагаў людзям, асабліва жыдам, маліўся за іх тры разы на дзень. Сваіх малітваў не закінуў і пасьля вайны. Зь цягам часу набылі яны вядомасьць, як і сама мясцовасьць. Пачалі зьязджацца туды людзі, якія хацелі памаліцца з братам Ражэ, некаторыя зь іх засталіся там на ўсё жыцьцё. Так у 60-ыя гады ўзьнік цэнтар экумэнічнай малітвы, які асабліва ўпадабала сабе моладзь. Цяпер у Тазэ каля 90 братоў, жывуць яны на спосаб запачаткаваны братам Ражэ — найважнейшыя для іх цішыня й малітва тры разы ў-дзень. У Тазэ круглы год прыязджаюць пілігрымы з цэлага сьвету, каб памаліцца разам з братамі, у цішыні падумаць над Эвангельлем, праўдамі веры, знайсьці дарогу да Хрыста. Супольнасьць Тазэ сваю духоўнасьць будуе, апіраючыся на розныя адгалінаваньні хрысціянства, стараецца з кожнага пачарпнуць істотныя вартасьці.

Вось куды трапілі мы пасьля цяжкай дарогі. Мары пра Лязуровае Пабярэжжа пачалі разьвейвацца ўжо першага дня, калі мы пачулі, што на працягу цэлае тыднёвае пабыўкі ў Тазэ, ня можна выязджаць з гэтае мясцовасьці. Арганізатары экумэнічных сустрэчаў хочуць, каб да іх прыязджалі людзі дзеля малітвы, а ня дзеля турыстыкі. Усе ўдзельнікі дзеляцца на групы: працы, дыскусійную, біблійную й цішыні. Дакладна вымешваюцца з сабою розныя нацыянальнасьці, завязваецца многа знаёмстваў, нават сяброўства, хаця часамі цяжкавата дагаварыцца. Разбрылося па вялікім палатачным полі й жыльлёвых бараках таксама беларускае студэнцтва. Пайшлі мы ў розныя групы, толькі ў групу цішыні нікому ўвайсьці не ўдалося, хаця пару хлопцаў гэтага хацела (наогул не бяруць туды тых, хто першы раз у Тазэ).

Я вырашыў, што мая знаёмасьць ангельскай мовы якраз адпаведная для таго, каб дагаварыцца пры рабоце, а не для таго, каб разьдзёўбваць рэлігійныя догмы. Выбар групы быў трапны, хаця даводзілася пратаць пасьля іншых, зьбіраць сьмецьце, будаваць земны вал. А нашы дзяўчаты дык наогул добра напрацаваліся ў кухні і нават у прыбіральнях, але былі намнога больш задаволены ад тых, хто сядзеў пад час дыскусійных спатканьняў, ня цямячы ні ў зуб прадмету дыскусіі.

Было ясна, што вырвацца з Тазэ незаўважанымі ня зможам — занадта мы былі для ўсіх экзатычныя, беларусы й да таго праваслаўныя. Усе, пры кожнай нагодзе, паўтаралі нам, што для іх вялікі гонар гасьціць у сябе беларусаў. Прасілі нас як найпаўней падключыцца да жыцьця цэлае супольнасьці, падзяліцца сваімі дасьведчаньнямі з моладзьдзю зь іншых краін. Сам брат Ражэ спаткаўся з намі, хаця выязджаў у Польшчу на сустрэчу з папам Янам Паўлам II. Брат Ражэ сказаў нам, што яны ў Тазэ вельмі цешацца з прычыны зьніканьня бар'ераў паміж Усходам і Захадам. Цяпер усе супольна павінны несьці адказнасьць за мірную Эўропу, за ўзьяднаны ў братэрстве сьвет.

Людзей з Захаду праваслаўе прываблівае сваёй формай: іконамі, літургіяй. Таму браты з Тазэ вельмі шкадавалі, што ня было з намі сьвятара, што ня змогуць прысутнічаць на праваслаўнай багаслужбе. Мы крыху прабавалі маліцца самі ў праваслаўнай капліцы, але не магу сказаць, каб аправа нашых малітваў — сьпеў выходзіў нам цудоўна. Зьдзівавалі мяне пры гэтым некаторыя актыўныя дзеячы Брацтва праваслаўнай моладзі, якія лічылі наогул непатрэбнымі такія малітвы. Паказвалі нейкую, незразумелую для мяне пыхлівасьць у адносінах да іншых веравызнаньняў. Прычын такіх паводзінаў я ня бачыў — прынялі нас надзвычай-жа ветліва, хацелі ад нас нечага навучыцца, падзяліцца з намі сваімі каштоўнасьцямі. Я й сёньня стаўлю сабе пытаньне аб прычынах такога складу думкі, няўжо гэта форма абароны, выпрацаваная ў сутыкненьні зь беластоцкімі католікамі. Толькі, ці можна наогул быць чалавекам сапраўды веруючым і адначасна неталерантным у адносінах да іншых?

Такімі пытаньнямі можна замучыць сябе, так і не дайшоўшы да ніякай развязкі. Трэба на іх проста плюнуць, як плюнуў я на арганізаваньне гэтых крышку паказных маленьняў. Засталіся рабіць гэта сапраўды зацікаўленыя дзяўчаткі.

У Тазэ нікога ня трэба было пераконваць, што Бог разумее й пабеларуску. Браты запрапанавалі нам, каб пад час супольных малітваў чытаць фрагмэнты са Сьвятога Пісаньня таксама пабеларуску. Адзін Новы Запавет у нас знайшоўся, і беларуская мова гучала ў царкве нароўні зь іншымі.

Дарэчы, гэтыя супольныя малітвы — цудоўная зьява. Людзі сядаюць проста на падлогу, слухаюць выняткаў з Эвангельля на розных мовах, сьпяваюць — таксама ў розных мовах — рэлігійныя песьні, сузіраюць у абсалютнай цішы. Пасьля іх застаецца незабыўнае ўражаньне.

Ня былі-б мы групай са спэцыяльнымі прывілеямі, каб усёж такі не сарганізавалі аднаднёвай выцечкі з Тазэ. І нават дасталі на гэта бласлаўленьне нашых гаспадароў. Ня была гэта паездка на Лязуровае Пабярэжжа, толькі ў Льён, але гэты горад настолькі прыгожы, што можа нават больш варты таго, каб яго ўбачыць, чымсьці разрэклямаваныя курортныя мясьціны над Міжземным Морам.

У Льён мы езьдзілі ў суботу 17 жніўня й быў гэта наш перадапошні дзень у Францыі. Наступнага дня трэба было зьбірацца дахаты. Не абышлося пры гэтым бяз дробных спрэчак што да паваротнай дарогі (як гэта заўсёды бывае ў такіх групах), але наогул паварот быў шчасьлівы, з паругадзінным шпацырам па Люксэмбургу. Праўда, перажылі мы трывожныя гадзіны, калі ў Нямеччыне ўчулі пра путч у Саюзе, але, тым ня менш, ніхто ня вырашыў заставацца ў бясьпечных мясцох.

МІКОЛА ВАЎРАНЮК



*Нашы дзяўчаты ў кухні.*

## З НАГОДЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

12 кастрычніка гэтага года адбыўся ў Менску міні-фэстываль, на якім выступілі выканаўцы аўтарскай песьні й рок-гурты. На імпрэзу гэту быў запрошаны і беластоцкі рок-гурт „Альбаросіка". Для „Альбаросікі" быў гэта першы канцэрт у замежжы.

Рок-гурт „Альбаросіка" складаецца з чатырох асоб: Ян Хоха (музыкант), Марак Сэваст'янік (студэнт у Кракаве), Славамір Шчэбёт (працуе ў Беластоку) і Андрэй Хомік (працуе ў Беластоку). Дагэтуль хлопцы выступалі наогул толькі на Беласточчыне — на імпрэзах, арганізаваных Беларускім Грамадска-Культурным Таварыствам альбо Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў.

Канцэрт „Альбаросікі", як і іншых выканаўцаў, адбыўся ў парку Янкі Купалы ў Менску. Канфэрансье фэстывалю быў Віталь Сямашка зь менскага радыё. Усе канцэрты непасрэдна трансьлявала беларускае тэлебачанне. Зь іншых рок-гуртаў выступілі: „Мроя", „Новае Неба", „Рокіс", „Грунвальд" і „Мясцовы час".

(ам)

## У ГАЛОЎНАЙ РАДЗЕ БАС

З увагі на пачатак навучальнага года для студэнтаў 10 кастрычніка 1991 года адбылося ў Беластоку паседжаньне Галоўнай Рады Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў. Студэнты закранаалі справу сацыяльнай сытуацыі ў беластоцкіх вучэльнях. Дарота Кузьміч ставіла на разгляд справу „Часопіса" — інфармацыйна-культурнага выданьня Усходняй Беласточчыны. „Часопіс" — выданьне незалежнае, ніякай сувязі з БАСам, як арганізацыяй, ня мае, але рэдагуецца выпускнікамі беластоцкіх вучэльняў — сябрамі БАСа ў мінулым. „Часопіс", як і кожнае іншае беларускае выданьне ў Польшчы, ня можа разьлічваць на прыбытак, ня ў змозе самафінансавацца. Галоўная Рада БАС абмяркоўвала магчымасьць фінансавай дапамогі выданьню.

На паседжаньні Галоўнай Рады БАС гаварылася таксама пра арганізацыю чарговага зьезда. Больш пільнай справай аказалася аднак арганізацыя „Атрасінаў" і турніра паміж студэнтамі БАСа і вучнямі беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы й Бельску-Падляшскім — культурна-забаўных імпрэзаў, якія карыстаюцца вялікай папулярнасьцю сярод моладзі. „Атрасіны" студэнтаў першага курса ў Беластоку вырашана правесьці 15 лістапада.

(ам)

# Іх папараць-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

## 25. ЯК ЯДУЦЬ АМЕРЫКАНЦЫ

Як ядуць амерыканцы? Скажу адразу, каб была яснасць: рэлятыўна да сваіх заробкаў — надта танна. Калі выдаваць грошы ашчадна, сцвярджае знаёмая полька, што часова жыве са сваёй чатырохасабовай сям'ёй у Амерыцы, можна пракарміцца за 200 долараў у месяц (муж яе, які прыехаў сюды на стыпендыю на нейкім прадпрыемстве і пасля прадоўжыў сабе працу на наступных пару гадоў, зарабляе каля 1500 долараў у месяц). Знаёмая хоча вяртацца дахаты, а сям'я ў Польшчы ўстрымлівае яе: сядзі, маўляў, калі сядзіш! За 200 долараў у нас з сям'ёй не пражывеш! А вось жа і Люба Блізнюк, былая салістка нашай „Лявоніхі", якую я сустрэла ў Кліўлендзе, казала мне, што 100 долараў на жыццё не выдасць. Паказала спачатку на горла (быццам за 100 долараў у месяц будзеш сыты па горла), а пасля падняла руку яшчэ вышэй і правяла ёю над галавой.

Можа, толькі ў гарадах паўночнай Італіі давялося мне бачыць такое мноства прадуктовых тавараў у магазінах, як у Злучаных Штатах Амерыкі. Аднак жа, калі гаварыць пра розныя паўфабрыкаты, сокі, гародніну — усё ў пластмасавых бутэлечках, баначках, каробачках, — дык больш чым тут не бачыла я нідзе. Усё ўжо гатова для выкарыстання — адкрываеш і ясі. Вяндліна нарэзаная, катлеты адбітыя, мяса адпаведна падзелена на порцыі і спецыяльна падрыхтавана да розных страў. Вядома, можна купіць і 20-фунтавую вэнджаную шынку або цэлую каўбасу. Усё ў магазіне пададуць і запакуюць табе ў каробачкі, мяшочкі, сумачкі — на дадатак з усмешкай.

Запасаў асаблівых рабіць не трэба: усё, што ядуць амерыканцы, заўсёды ёсць у магазіне. Трускалкі зімой — таксама. Верына вялізная лядоўка (складаецца з дзвюх частак — левая гэта маразілка, а правая — халадзільнік), аднак, запхана поўнасцю — самыя розныя сыры гатункаў сямі як мінімум, вяндліна, салаты — рыбныя, сырныя, гароднінныя, фрукты. У гасціннай хаце Бартулёў не можа забракнуць яды! Невядома ж, калі і з якога канца свету паявіцца ў гэтай хаце беларус. У шафках — запасы баначак з фасолькай па-брэтонску, з кукурузай і іншымі гароднiннымі стравамі — а што, калі з'явіцца такі вегетарыянец, як Руслан, сын Валі Якімовіч з Мінска?! Ён жа, зафасцынаваны наказамі буддыйскай рэлігіі, нават яйка ў рот не возьме, а Вера прывыкшая дагаджаць сваім гасцям.

Гатовыя прадукты цалкам добрай якасці замяняюць амерыканкам наша доўгае і страснае гатаванне. Вядома, адпаведна дорага трэба і заплаціць за іх.

Амерыканская кухня намнога больш салодкая ад нашай. Думаю, што прычынай гэтага з'яўляецца несамавітая колькасць фруктаў у іх, з якіх робяцца салаты, якія дадаюць у розныя стравы. Ёсць тут нават салодкая бульба, без якой не можа абысціся печаны „турку", гэта значыць індык. Да гародніны і фруктаў амерыканцы вельмі прывязаны, а вараныя качаны кукурузы смакуюць ім часамі шмат больш, чым найцудоўнейшая шынка.

Другая характэрная якасць амерыканскай кухні, якая кідаецца ў вочы, гэта шмат смажаніны. Антон штодзень робіць сабе грэнкі ў тостэры, без іх не ўяўляе сабе снедання. У рэстаранах — усё смажанае, высмажанае да непрыстойнасці: хрумсцячы бекон, такая самая рыба, шынка, кураня, а нават сасіскі ў іх часцей смажаць, чым вараць.

Усё гэта падаецца амаль заўсёды палітае таматным соусам, ды яшчэ з часнаком.

Асобным раздзелам амерыканскай кухні з'яўляюцца гамбургеры, якія вельмі любіць моладзь. А Данчык дык проста заядаецца імі нават тады, калі ёсць стэкі ці індык! Мне гамбургеры не смакавалі. У сярэдзіне мяса было сыраватае, а зверху цвёрдае і не вельмі смачнае. Ялавічына! А можа проста я не трапіла на тыя гамбургеры, пра якія так паэтычна пішацца ў кніжках...

Паводле амерыканскіх кніжак, існуе цэлы рытуал падрыхтоўкі гамбургераў. Найчасцей робяць іх з ялавічыны (часамі да яе дадаюць крыху мяса кураняці), якую прапускаюць праз мясарубку. З мяса, якое мелюць двойчы, атрымліваюцца больш кампактныя гамбургеры, з больш далікатнай структурай.

У залежнасці ад густу можна пры падрыхтоўцы гамбургераў замяніць ялавічыну баранінай, свінінай ці цяляцінай.

Мяса для гамбургераў нельга захоўваць у халадзільніку больш аднаго-двух дзён, аднак у маразільніку яно можа перахоўвацца да трох месяцаў.

Пры падрыхтоўцы гамбургераў шмат зручней карыстацца відэльцам, чым пальцамі ці лыжкай, мяшаючы з прапушчаным праз мясарубку мясам усе неабходныя дадаткі.

Да мяса трэба дакранацца рукамі як мага менш, ды нават тады, калі яно дзеліцца на асобныя порцыі для гамбургераў. Чым менш да мяса дакранаешся рукамі, тым больш далікатнымі і сакавітымі будуць гамбургеры. Тыя гамбургеры, якія шмат разоў пабывалі ў руках, становяцца больш сціслымі і сухімі.

Гамбургеры смажаць на патэльні і на ражне, але заўсёды і патэльня, і ражон павінны быць моцна разагрэтыя перад тым, як пачнем смажыць. Гамбургеры на патэльні хутка абсмажваюць з абодвух бакоў, а тады адзін бок, перад тым як перавярнуць, абсмажваюць да гатоўнасці. Калі пераварачваць больш аднаго раза, гамбургер не атрымаецца такі далікатны і сакавіты.

Хто падрыхтоўвае гамбургеры на адкрытым паветры на ражне, павінен памятаць, што цудоўны арамат дыма атрымаецца, калі дадаць у вугаль некалькі сырых трэсак яблыні, ляшчыны ці мускатнага дрэва.

Рэцэпт на падставовы гамбургер:

На каля кілаграма ялавічыны бярэм паўтары чайнай лыжачкі цыбульнай пудры і адну чацвертую чайнай лыжачкі чорнага змеленага перцу, па смаку дадаем соль. Прапускаем мяса праз мясарубку і відэльцам далікатна перамешваем усе прадукты разам. Атрыманую масу дзелім на шэсць аладак, як мага менш дакранаючыся да мяса рукамі і клапоцячыся пра тое, каб занадта яго не сціскаць. Гамбургеры смажыць на патэльні, на ражне або на вуголлях. Час падрыхтоўкі залежыць ад таго, ці хтосьці любіць есці іх сыраватымі, паўгатовымі, ці падсмажанымі поўнасцю.

А наогул дык у Амерыцы з ядой, як і з вопраткай. Многа ўсяго ёсць — і ўжо ніхто не звяртае на гэта асаблівай увагі. Не лічачы дарагой рыбы, ікры, цяляціны і некаторых іншых прадуктаў, амаль усё даступная сярэдне заможнаму грамадзяніну.

Але спадар Францішак усё паўтарае, што нельга варыць смачна, бо тады хочацца есці. А ўся штука ў тым, каб есці як мага менш. Тады — і здароўе, і фігура.

Божа мой, Божа, і як яны тут вытрымліваюць?! Нам гэта цяжка зразумець.

*(Працяг будзе)*

**АДА ЧАЧУГА**

# ШТО І ЧАМУ?

**Трыццатага верасня г.г.** удзельнік канферэнцыі „Белавежа-91" Васіль Мельяновіч з ЗША гасцяваў у Нарве. Спадар Мельяновіч з'яўляецца ініцыятарам стварэння ў Амерыцы інфармацыйнага бюро з мэтай зацікавіць тамашні бізнес Рэспублікай Беларусь і Беласточчынай. У Нарве сустрэўся ён з Янам Тапалянскім — войтам гміны і арганізатарам Злучнасці гмінаў усходняй Беласточчыны і з Янам Чэрнякевічам — намеснікам дырэктара суполкі „Пронар". Амерыканскага госця зацікавілі тутэйшыя гаспадарчыя ініцыятывы. Са свайго боку абавязаўся ён даць поўную інфармацыю адносна магчымасцяў выкарыстання патэнцыялу Беласточчыны, а ў прыватнасці гміны Нарва, для зацікаўленых колаў амерыканскага бізнесу.

**Другога кастрычніка г.г.** старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Яўген Лецка і старшыня Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Сакрат Яновіч падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж абедзвюма арганізацыямі. Прадбачвае яно наладжанне супрацоўніцтва ў галіне культуры, асветы і гаспадарчай дзейнасці. З мэтай паспяховай яго рэалізацыі бакі абавязаліся стварыць прадстаўніцтва ЗБС „Бацькаўшчына" ў Беластоку і Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Менску. Пагадненне ўступіла ў сілу ад моманту яго падпісання і тэрмінам не абмяжоўваецца.

**Дзесятага кастрычніка г.г.** на пасяджэнні Галоўнай рады БДА канчаткова была вырашана справа Гаспадарчага гурту Аб'яднання. У выніку доўгай дыскусіі была выпрацавана формула гурту і яго стратэгія на бліжэйшы час. Ягоным кіраўніком выбраны юрыст Пятро Юшчук.

**Ю. КАЛІНА**

---

ўрадавых матэрыялаў" жахлівае становішча мужыкоў у XIX ст. на Беларусі, прыводзячы як прыклады канкрэтныя факты з жыцця, — праца вельмі ж кароткая, здаецца, недаконченая, бо на аснове першага сказа можна спадзявацца ад аўтара нарысу пра грамадскі рух беларускага народа ад канца XVIII ст. — да часоў аўтару сучасных. Артыкул гэты змяшчае, аднак, факты цяжкага, нечалавечага жыцця мужыкоў да паловы XIX ст. Спасылаючыся, між іншым, на матэрыялы IX тома „России" (стар. 109), Багдановіч прыводзіць у ім наступнае: „У Віцебскай губерні, — піша ў „всеподданнейшем донесении" 1855 года галоўны начальнік края, — мужыкі бадай не бачаць хлеба, жывуць грыбамі і рознымі сырымі рэчамі, шырашчымі хваробы". У гэтай працы публіцыст, па сутнасці, абмяжоўваецца да такога роду інфармацый.

З іншых публіцыстычных твораў Багдановіча сваім характарам адрозніваецца ад астатніх артыкул „Белорусское возрождение", у якім пры раскрыцці грамадска-палітычных умоў аўтар падае сістэматызаваны велізарны фактычны матэрыял — звесткі не толькі пра асноўныя з'явы беларускай літаратуры, але і пра другарадныя. Усе факты існуюць тут не самі па сабе, а для доказу таго палажэння, што беларуская літаратура „не монстр, не рарытэт, не унікум, а глыбока жыццёвая з'ява, што знаходзіцца ў рэчышчы агульна-еўрапейскага прагрэсу".

Як сцвярджаюць Т. В. Кабржыцкая і В. П. Рагойша, М. Багдановіч, пішучы гэтую своеасаблівую гісторыю беларускай пісьменнасці, працягваў традыцыі Ул. Свянціцкага і С. Палуяна („Карані дружбы", Мінск, 1976, стар. 124). Аднак, у параўнанні з „Адраджэннем беларускага пісьменніцтва" Свянціцкага, яго гісторыя значна багацейшая фактамі. Паколькі артыкул быў выдадзены і на ўкраінскай мове, украінцы маглі даведацца пра многіх раней невядомых ім беларускіх пісьменнікаў старажытнай пары і XIX ст. Свянціцкі заканчвае сваю працу на 1907 г., Багдановіч жа — даводзіць агляд беларускай літаратуры да 1914 г., да падзей першай сусветнай вайны.

Даследчык удала спалучыў гісторыка-храналагічны прынцып падачы матэрыялу з аглядам найважнейшых здабыткаў беларускай літаратуры па жанрах (паэзія, проза). Прычым асоба літаратуразнаўцы ў артыкуле адчуваецца даволі выразна.

Беларускі нацыянальна-культурны рух, на думку Багдановіча, калі разглядаць яго ў параўнаўча-гістарычным асвятленні, прадстаўляе сабою толькі адзін з працэсаў дыферэнцыяцыі еўрапейскай культуры па нацыянальных адзнаках.

Каб даказаць свайму чытачу, што паяўленне беларускай літаратуры і культуры — вынік агульнаеўрапейскага парадку, а не выключна мясцовага, ён спярша прадстаўляе сітуацыю сярэдневяковую, якое ведала толькі адну лацінскую мову як сродак духоўнай культуры, а пасля апісвае складанне асобных нацыянальнасцей, родная мова якіх павінна заняць месца лацінскай мовы.

Прага да нацыянальнай мовы раней за ўсё выявілася ў мастацкай творчасці. Пачынальнікам гэтага кірунку, як правільна прыкмячае Багдановіч, з'явіўся Дантэ, і што ўслед за ім да жывых, яшчэ мала апрацаваных моў, звярнуліся французы, немцы, англічане, іспанцы. Гэты рух палажыў пачатак нацыянальным еўрапейскім культурам. У далейшым развіцці гісторыі еўрапейскіх грамадстваў, як піша аўтар, дыферэнцыяцыя еўрапейскіх культур робіцца яшчэ больш значнай. Нацыянальна-палітычнае адраджэнне вядзе за сабою выяўленне нацыянальнай культуры (партугальская, чэшская, галандская, румынская, літоўская і г. д.).

Аднак, працэс дыферэнцыяцыі культураў на гэтым не спыніўся. Ад нацыянальных комплексаў адасабляюцца больш дробныя, блізкія да іх па свайму характару, але ўсё-такі розныя. Як сцвярджае Багдановіч, гэты працэс знайшоў найбольш яскравы адбітак у славеснай творчасці. Гэткім чынам ён падыходзіць да сутнасці справы, а менавіта разглядае апошні этап фармавання нацыянальных літаратур, калі ад французскай літаратуры адшчапляецца правансальская, ад іспанскай — каталонская, ад чэшскай — славацкая, сербскай — славенская, польскай — кашубская, вялікарускай — украінская, нарэшце — беларуская.

Праф. Уладзімір Пічэта, аналізуючы гэты артыкул, пацвярджае ход думкі Багдановіча. „Няможна не згадзіцца, што гэтая пастаноўка зусім правільная. Дакладны аналіз гістарычных судзьбінаў еўрапейскага грамадзянства даў грунт маладому прысці да такога карыснага сацыялагічнага вываду".

*(Працяг будзе)*

**ЯНІНА ТРАЧУК**

# ПАЧАТАК КУЛЬТУРНАГА ГОДА Ў БГКТ

( Працяг са стар. 1 )

беларускі музей!". Каб не настойлівасць і самаахвярнасць спадара Майсені, сёння музея не было б. А будаваць было вельмі ж нялёгка. Міністэрства ўнутраных спраў, якое апекавалася нацыянальнымі меншасцямі, грошай не давала (цяпер Міністэрства культуры і мастацтва пабудову, хаця не ў дастатковай ступені, але фінансуе). Некаторыя беларусы самі шкодзілі музею. Тут старшыня намякнуў на высыланне эміграцыі лістаў, у якіх ганьбавайся музей, на аднаго ананімнага бэгэкатоўскага чыноўніка, які выступаў супраць музея ў Менску. Так быць далей не можа, бо „музей, гэта не справа Баршчэўскага ці Майсені, нават не справа Беларускага таварыства ці Камітэта пабудовы, а нас усіх. Можаце не любіць мяне ці Майсеню, але любіце Беларускі музей, бо ён будзе праменяваць на ўсю беларускую энклаву ў Польшчы", — заклікаў прысутных А. Баршчэўскі. Асабліва горача старшыня апеляваў да прадстаўнікоў вёсак — солтысаў (у зале, паміж старымі і заслужанымі дзеячамі БГКТ былі іх лічаныя адзінкі).

Другім слова ўзяў Кастусь Майсеня. Прадставіў ён цяперашні стан пабудовы і планы на будучыню. Расказаў канкрэтна пра тэхнічны бок мерапрыемства, фінансавыя праблемы і спосабы іх развязкі. Музей, у канчатковым выглядзе, будзе складацца з трох будынкаў. На сённяшні дзень выкарыстоўваецца ўжо першы з іх — будынак „А". Калі будуць грошы, за зіму можна скончыць будынак „Б", а да канца будучага года пабудаваць гмах „Ц" і ўпарадкаваць пляц.

Пасля выступлення К. Майсені пачалася дыскусія, якая перад усім зводзілася да аматарскага мастацкага руху. Сцяпан Копа заявіў, што ў апошні час ён сам, а не БГКТ, запрасіў большасць калектываў з Беларусі, за гэта яму ніхто нават не падзякаваў. Мікалай Бушко сказаў, што такімі справамі павінны займацца людзі, якія бяруць за гэта грошы. Трэба памятаць, што Ваяводскі асяродак анімацыі культуры павінен папулярызаваць таксама беларускую культуру, гэта яго абавязак, ніхто нікому ласкі не робіць. Валянціна Ласкевіч сказала, што хаця арганізуецца ў нас нямала культурных імпрэзаў, але не робіцца ніякіх планаў на будучыню. Камісія культуры БГКТ не збіралася ўжо два гады. Гаварылася шмат пра балючую справу бельскіх „Васілёчкаў" — хору, які пасля 28 гадоў існавання прыпыніў сваю дзейнасць.

Настаўніца беларускай мовы з Юдзянкі Вольга Сянкевіч: „Мы многа гаворым пра мастацкія калектывы і нічога пра навучанне беларускай мовы. Я штогод 1 верасня баюся, што вучні прынясуць картачкі з просьбай аб вызваленні ад навучання гэтага прадмета. Таварыства не праяўляе ніякага зацікаўлення станам навучання беларускай мовы, а магло б дапамагчы хаця б часопісамі, бо цяпер у школе няма апрача „Нівы" ніякіх".

На канец выступіў сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк, які заявіў, што гэта скандал, калі ён не мог тут прадставіць справаздачы аб дзейнасці за апошні год. Пасля двухгадзіннай дыскусіі, калі ўсе ўжо памучаныя, няма ніякага сэнсу гэта рабіць. Здзівіла яго атмасфера абвінавачванняў, якую ўвёў старшыня.

А. Баршчэўскі рэплікаваў, што лічыць сустрэчу вельмі сэнсоўнай, а дыскусію дзелавой. Пасля яго даў канцэрт калектыў народнай песні „Маланка", які працуе пры Бельскім доме культуры пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. (Гэта быў адзіны ясны момант усяе ўрачыстасці, хаця артысты, падрыхтаваныя і запрошаныя на 10-ую гадзіну, прасядзелі звыш дзвюх гадзін у аўтобусе.) У час канцэрта запрэзентаваліся кандыдаты Беларускага выбарчага камітэта ў парламент Рэчыпаспалітай. Пасля канцэрта ўдзельнікі сустрэчы наведалі музей, затым пераехалі ў Старую Белавежу на пачастунак пры вогнішчы.

На гэтым можна было б і закончыць справаздачу з адкрыцця культурна-асветнага года, але лічу, што ўсё ж такі трэба яе папоўніць. Пасля сустрэчы склалася ў мяне ўражанне, што шаноўныя дзеячы БГКТ канчаткова страцілі кантакт з рэчаіснасцю. Сустрэча праводзілася ў дзень прыхадскога свята, што значна паменшыла лік удзельнікаў. Арганізатары некалькі разоў звярталіся да фактычна непрысутных солтысаў. Спадар Баршчэўскі называе сэнсоўнай беcталковую балбатню, якая не прыводзіць да ніякіх высноў. За мінулы год арганізаваны быў толькі адзін фэст у Белавежы (тады, калі на Беласточчыне гасцявала некалькі дзесяткаў калектываў з Украіны). Станоўча замала ўвагі прысвячаецца школьніцтву. Каб не шматгадовая руплівая праца Кастуся Майсені, якая прыносіць канкрэтны эфект — музей, дзеячам БГКТ не было б за што зачапіцца. А ўжо абсурдам было сказаць кандыдатам Беларускага выбарчага камітэта (усе члены БГКТ, дырэктары беларускіх школ, лідэры літаратурнага аб'яднання „Белавежа"), што іх ніхто на сустрэчу не запрашаў. Я разумею, што цяжка паверыць камусьці ў тое, што жыццё ўжо адставіла яго на запасныя пуці. І нічога тут не зменіш прэтэнзіямі і паклёпамі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

паведамляе, што ў сувязі з вялікім зацікаўленнем карцінамі мастачкі **Тамары Тарасевіч**, выстава яе прац прадаўжаецца да **31 кастрычніка г.г.**

Выставу можна агледаць у гадз. 8-15, а ў святочныя дні — 11-15.

Адрас музея: Гайнаўка, вул. 3 Мая 42.

# РАЗВІТАННЕ З ДЫРЭКТАРАМ

У нядзелю 6 кастрычніка ў Бельскім беларускім ліцэі праводзіўся бацькоўскі сход. Перад бацькамі і настаўнікамі выступілі: ансамбль беларускай народнай песні „Маланка" і кандыдаты Беларускага выбарчага камітэта: Васіль Ляшчынскі — у Сейм і Ян Чыквін — у Сенат. Най-важнейшай падзеяй гэтага дня было развітанне са школай яе шматгадовага дырэктара Аляксея Карпюка.

Аляксей Карпюк працаваў у асвеце 30 гадоў, спачатку два гады настаўнічаў у Шчытах, з 1963-га па 70-ты быў кіраўніком Пачатковай школы ў Орлі, ад 1970-га года — у ліцэі, год настаўнікам, дваццаць гадоў яго дырэктарам. За гэты час школа выпусціла 1840 абсальвентаў (на агульны лік 2696), каля 80 % якіх паступіла ў вышэйшыя школы і паканчала іх.

На тое, што Аляксей Карпюк развітаўся з ліцэем, меў уплыў сеймавы закон, які гаворыць, што дырэктары з т.зв. партыйнай наменклатуры павінны адыйсці да жніўня 1992 г. Але галоўнай прычынай было здароўе. „Я толькі ў гэтым годзе быў ужо чатыры разы ў бальніцы, — сказаў мне А. Карпюк, — сэрца. Фармальна быў я дырэктарам, але фактычна маю працу мусілі выконваць за мяне іншыя. У мяне проста не было сумлення каго-небудзь абцяжарваць сваімі абавязкамі."

Беларускі ліцэй імя Б. Тарашкевіча здаўна вядомы як адзін з лепшых ліцэяў не толькі на Беласточчыне. Свайго часу атрымаў нават акрэсленне „кузня алімпійцаў". Ад 1977 года, без перапынку, вучні ліцэя даходзілі да цэнтральнага



ўзроўню прадметных алімпіядаў. За гэты час было 85 алімпійцаў цэнтральнага ўзроўню, з чаго 16 стала лаўрэатамі (у акруговым этапе прыняло ўдзел 548 асоб). Дырэктара былі нават крытыкавалі, што занадта экспануе ролю алімпійцаў. Але гэта ж не робіцца для нейкіх спартыўных дасягненняў ці пустой славы. Поспехі ў прадметных алімпіядах далі вучням (у вялікай частцы

**********************************************

# „НАШЫ" ЎКРАІНЦЫ

( Працяг са стар. 1 )

Усім вядома, што ступень ідэнтыфікацыі з праваслаўным веравызнаннем беларусаў усходняй Беласточчыны значна вышэйшая, чымсьці з якім-колечы нацыянальным пачуццём. Таму такая сітуацыя спарадзіла дзве палітычныя плыні ў праваслаўным асяроддзі: безнацыянальна-царкоўную і беларускую. Яны выразна абазначыліся ўжо ў парламентарных выбарах 1989 года, з поўнай сілай выступаюць і ў сёлетніх. Выбары 1989, з увагі на ўдзел у іх падтрымліванага царкоўным асяроддзем праваслаўнага ўкраінца з Варшавы Багдана Мартынюка, падляшскія ўкраінцы трактуюць як палітычнае замацаванне сваёй тут прысутнасці. Нічога больш ілюзорнага. Самаўрадавыя выбары 1990 года і сёлетняя перадвыбарчая сітуацыя на Беласточчыне вызначылі як не трэба лепш аблічча і абсяг палітычнай прысутнасці „нашых" украінцаў. Палітычны рух падляшскіх украінцаў як самастойная сіла не існуе. Ён можа адно „пад'ехаць на царкоўным возіку" альбо на пачуцці так званай „рускасці" (што, агульна кажучы, абазначае пачуццё чалавека, які мае „рускую" веру і гаворыць „пасвойму").

Нейкія „рускія" ці „русінскія" камітэты, створаныя ўкраінскімі актывістамі пад час самаўрадавых выбараў у некаторых гмінах, якраз і абапіраліся на тое штораз болей расплывістае пачуццё „рускасці". Характэрнымі для палітычнага вымярэння ўкраінскага руху з'яўляюцца вынікі выбараў у горадзе Бельску. Руска-ўкраінскі камітэт здабыў у гарадской радзе адно месца: людзі выбралі, як здаецца, сапраўднага ўкраінца родам не з Беласточчыны, а „нашых" украінцаў адкінулі. Вынік Беларускага выбарчага камітэта ў Бельску — 8 мандатаў.

Сёлетняя выбарчая кампанія паказала яшчэ раз, што ніякага ўласнага ўкраінскага палітычнага руху на Беласточчыне і быць не можа — двух „нашых" украінцаў заканспіваралася над шыльдаю Выбарчага камітэта праваслаўных (а заўважма, што ў нашай выбарчай акрузе маем і сапраўдных украінцаў — у Блоку нацыянальных меншасцяў). Ці трэба казаць, якую „мапу палітычных уплываў" стануць рысаваць падляшскія ўкраінцы пасля сёлетніх выбараў? Іду ў заклад на скрынку гарэлкі, што гэта не будуць уплывы згаданага Блоку нацыянальных меншасцяў. З увагі на гэта, даволі цікавая сітуацыя лідэра выбарчага спіску праваслаўных Яўгена Чыквіна, які заяўляе, што ён — беларус. Да якога „арэалу" будуць залічаны ягоныя палітычныя ўплывы? Наколькі мне вядома, Беларускі выбарчы камітэт не збіраецца рысаваць мапаў „беларускага арэалу" паводле выбарчых вынікаў Яўгена Чыквіна.

Нараджэнне ўкраінскага руху на Беласточчыне звязана з даволі цікавай акалічнасцю ў самім беларускім руху. Пасля перыяду ваеннага становішча беларускі студэнцкі рух, фармальна

вясковым) веру ў свае сілы, паказалі, што яны не горшыя за іншых, што могуць выбіраць самыя прэстыжныя вышэйшыя школы і не баяцца правалу на экзаменах. А раней нават вельмі здольныя выпускнікі ліцэя не збіраліся вучыцца далей, бо, маўляў, мы, вясковыя ці з малога гарадка, не маем шанцаў выйграць з тымі з Варшавы ці з Беластока. Якраз прадметныя алімпіяды гэта змянілі, цяпер вучні ліцэя не маюць ніякага пачуцця прыніжанасці, лічыць дырэктар.

„Школа гэта не толькі навука, — гаворыць А. Карпюк, — трэба думаць аб усім, чым жыве малады чалавек, аб яго радасцях і клопатах. Я няраз чуў нараканні вучняў, што мы, настаўнікі, многа патрабуем, што ў нас трэба цяжка працаваць. Вельмі мяне здзівілі і ўцешылі вынікі конкурсу „Газеты Всплучэснай" „Школа мараў", які праводзіўся тры гады таму. На падставе лістаў абсальвентаў наш ліцэй заняў другое месца сярод школ з трох ваяводстваў (Беластоцкае, Ламжынскае, Сувальскае). У нас не толькі можна нечаму навучыцца, але і развіваць свае зацікаўленні: спартыўныя, музычныя ці іншыя. У нас вельмі многа кубкаў за пазанавуковыя дасягненні".

Дырэктар А. Карпюк галоўнай задачай ліцэя лічыць спалучыць высокі ўзровень навучання з нацыянальным узгадаваннем моладзі. Не будзе лёгка дабіцца гэтага ў будучыні, бо штораз менш вучняў вывучае беларускую мову ў пачатковай школе (пусцее вёска), у гарадах беларуская нацыянальная свядомасць усё яшчэ з'ява рэліктавая. Але на сённяшні дзень настаўнікам удаецца добра навучаць і ўласціва выхоўваць моладзь. „Калі наш ліцэй будзе слабы, — кажа А. Карпюк, — стане ён аб'ектам крытыкі, бо на нас вельмі ўважліва глядзяць. Трэба памятаць таксама і пра тое, што ў нас нямала ворагаў".

Пасля такой доўгай працы ў ліцэі дырэктар А. Карпюк баіцца, каб разам з адыходам на пенсію не з'явілася ў жыцці нейкая пустка, не забракла чагосьці істотнага і дарагога. „Мой кантакт са школай не канчаўся на самой працы, быў час, што я думаў пра яе і ўначы, і пад час адпачынку. Няраз і баяўся. Зразумела, хацелася б утрымоўваць кантакт са школай і ў будучыні. Цяпер памагаю Зінаідзе Навіцкай, якая выконвае ролю дырэктара. Хацеў бы і ў будучыні, калі будзе такая патрэба, дзяліцца сваім дасведчаннем практыка, сваім шматгадовым вопытам. А маладым настаўнікам, якія прыходзяць да нас, хацеў бы пажадаць, каб яны добра, сардэчна працавалі з моладдзю і не забывалі, якую ролю адыгрывае меншасны ліцэй".

Жадаем дырэктару Аляксею Карпюку добрага здароўя і таго, каб у яго жыцці не паявілася адчуванне пусткі, чаго баіцца дырэктар. Са сваімі ведамі і вопытам, ён напэўна не раз яшчэ спатрэбіцца ліцэю імя Б. Тарашкевіча і ўсяму беларускаму школьніцтву на Беласточчыне.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

*****************************************************

не прызнаны, але фактычна дзейны, апынуўся перад пытаннем — дзе знайсці нейкія „інстытуцыянальныя" формы далейшай актыўнасці? БГКТ аказалася арганізацыяй „непранікальнай" — арганізаваная спроба стварыць беластоцкі студэнцкі гурток БГКТ закончылася няўдачай. Дзеячы БГКТ далі адпор — студэнты, маўляў, несвоечасова прынеслі членскія дэкларацыі, таму не могуць удзельнічаць у вылучэнні сваіх кандыдатаў на чарговы з'езд БГКТ, які набліжаўся. Фактычна гэта было развітанне маладых беларусаў з БГКТ. Некаторыя актывісты студэнцкага руху падаліся ва Украінскае таварыства. Туды іх прынялі, як кажуць, з адкрытым сэрцам. Неўзабаве апынуліся яны ў Галоўным праўленні УГКТ. Прыгадваю гэта, таму што Гаўрылюк і яго аднадумцы надзвычай ахвотна карыстаюцца аргументам, што беларускі рух на Беласточчыне трымала кантраляванае Міністэрствам унутраных спраў БГКТ, а значыць, ён чыста камуняцкага паходжання і г.д. Украінскі рух пачынаўся ў дакладна так сама кантраляваным УГКТ. Гэта дзеля яснасці сітуацыі, аб якой „нашы" ўкраінцы „забываюць" у сваёй публіцыстыцы. Розніца тут у тым, што ў падобнай сітуацыі да двух падобных установаў ішлі розныя інструкцыі ад „апекуноў".

Мерытарычную ацэнку ўкраінскаму руху на Беласточчыне дае Сакрат Яновіч у тэксце „Poleszucy — Białorusini czy Ukraińcy?": Рух гэты, адзначае С. Яновіч, будзе існаваць на прынцыпе меншасці сярод меншасці (украінскай сярод беларускай). Істотным фактарам у жыцці рэгіёна не станецца. Беларускасць тут не ўкаранілася дзякуючы „інтрызе камуністаў з КПЗБ ці здрадніцкай нязвазе да гэтага кутка з боку міжваенных украінскіх арганізацый" — пра гэта вырашыла гістарычная супольнасць лёсу паўночнага Падляшша з Беларуссю менавіта (раней — з Вялікім княствам Літоўскім). Палітычныя змены апошніх гадоў і эканамічныя сувязі з Беларуссю зусім натуральна ўзмоцняць тое, што ліпела да гэтай пары адно на ніточках культурна-асветных памкненняў з фальклярыстычным ухілам у гэтай глухамані. Гэта даволі брутальны пераказ думак Сакрата Яновіча (прашу ягонага выбачэння).

На заканчэнне вось што: беларускаму руху на Беласточчыне пагражае не размыццё яго ўкраінскімі ўплывамі, а своеасаблівая ірландызацыя (у культурным і моўным аспектах). Можа гэта стацца, як ні парадаксальна, у час, калі Беларусь будуе дзяржаўную незалежнасць і беларусы першы раз у гісторыі маюць перспектыву як нацыя. Таму для нас нашмат больш істотным з'яўляецца пошук выйсця з пахілістага шляху ў асіміляцыю, чымсьці ўваход на шлях змагання з маргінальным тут украінскім рухам. Маё асабістае ўражанне такое, што некаму трэцяму вельмі ўжо рупіць пусціць нас па гэтым другім шляху.

**ЯН МАКСІМЮК**

# НАМІ КАРЫСТАЛАСЯ ЦРУ

*****************************************************

**( Працяг са стар. 1 )**

Будапешта. Для Радыё „Свабода" зроблены ўжо першы крок дзеля гэтага самага — пасля няўдалага путчу Ельцын акрэдытаваў прадстаўнікоў Радыё „Свабода" ў Маскве. Мы, як Беларуская служба Радыё „Свабода", зацікаўленыя, каб падобнае зрабіла і Беларусь.

*— Ці шмат людзей працуе ў беларускай рэдакцыі?*

— Наша рэдакцыя даволі малая ў параўнанні з расейскай ці польскай — усяго разам працуе ў ёй дзевяць штатных працаўнікоў. Акрамя гэтага, маем супрацоўнікаў у Беларусі, на Беласточчыне ды карэспандэнтаў у Амерыцы і іншых частках свету.

*— Якая Ваша роля як кіраўніка Беларускай службы Радыё „Свабода"?*

— Найважнейшая частка маёй працы — гэта падрыхтоўка праграмы, выпрацоўка яе накіраванасці, каб зацікавіць як мага большую аўдыторыю. Што датычыць цэнзуры, дык яе як такой няма, але ёсць пэўныя правілы, якімі мы абавязаны карыстацца. Прыкладна, калі мы перадаем весткі, дык весткі гэтыя не могуць быць узяты з аднае крыніцы — яны павінны быць пацверджаны ў іншай незалежнай крыніцы. Гэта прынцып добрай журналістыкі. З іншых правілаў, якія абавязвалі раней і часткова абавязваюць дагэтуль, варта згадаць прынцып аб непадбухторванні ...



*Вячаслаў Станкевіч.*

*— Ён, бадай, самы істотны...*

— У сувязі з тым, што радыёстанцыя транслявала свае перадачы за жалезную заслону, прынцып гэты быў сапраўды істотны — без яго можна было нарабіць шмат шкоды. У гісторыі радыёстанцыі яно і здарылася... Калі ў 1956 годзе ў Будапешце было паўстанне, роля, якую адыграла Радыё „Вольная Еўропа", мела негатыўны вынік, бо з боку радыёстанцыі было крыху заахвочвання і абяцання дапамогі, якое зусім не здзейснілася і, паводле амерыканскіх афіцыйных органаў, не магло здзейсніцца. Пасля гэтага на прынцып аб непадбухторванні ставілі ў нас асабліва моцны націск.

*— Зараз у Вас ёсць карэспандэнты ў Менску ды іншых гарадах Беларусі. Цікавіць мяне, як раней, да пераменаў ва Усходняй Еўропе, радыёстанцыя здабывала інфармацыю, на якіх крыніцах абапіралася?*

— У той час абапіраліся мы ў бальшыні на заходніх крыніцах, бо карыстанне з інфармацыі, якую зараз пераказваюць нам нашы карэспандэнты ў Беларусі, пачалося толькі ў 1989 годзе. У той час, гэтыя першыя карэспандэнты знаходзіліся пад пагрозай рэпрэсій з боку ўлад і КДБ — на самай справе было некалькі непрыемных выпадкаў, але вольная прэса ды інфармацыя пра дзейнасць гэтых жа карэспандэнтаў, да пэўнай меры, бараніла іх. Як прыклад можна тут прывесці справу Валеры Сядова — лічу, што якраз вольная прэса ды іншыя незалежныя сродкі масавай інфармацыі прычыніліся да ягонага звальнення з турмы. Сярод гэтых сродкаў інфармацыі было і Радыё „Свабода".

*— У савецкай прапагандысцкай літаратуры ці публіцыстыцы пра Радыё „Свабода" гаварылася як пра агентуру ЦРУ...*

— Ёсць тут пэўная частка праўды, бо яшчэ гадоў дзесяць таму — дакладна я гэтага не ведаю — Радыё „Свабода" атрымлівала падтрымку ад ЦРУ. У чым тут справа? Для кожнае разведкі інфармацыя вельмі важная — гэта падстава дзейнасці. Частка інфармацыі, якую мы збіралі ў часе сваёй працы, трапляла і ў ЦРУ — гэта, аднак, закончылася нейкіх дзесяць гадоў таму. Цяпер Радыё „Свабода" афіцыйна і яўна фінансуецца Кангрэсам Злучаных Штатаў Амерыкі.

*— Ці можна сказаць, што ў той час была гэта цана дзейнасці радыёстанцыі?*

— Я б не сказаў, што была гэта цана. Галоўная мэта заўсёды была адна — трансляванне інфармацыі з вольнага свету ў замкнёныя яго рэгіёны. Але ў сувязі з тым, што радыёстанцыя была адным з найбольшых даследчых інстытутаў Усходняй Еўропы, частка нашай інфармацыі была карысная і для ЦРУ — дзеля таго яны (ЦРУ — А.М.) лічылі патрэбным даваць грашовую падтрымку радыёстанцыі.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў**
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**фота аўтара**

---

* *ЦРУ — Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне ЗША.*

** *За жалезнай заслонай* — з пунтку гледжання Захаду: *у Савецкім Саюзе, ці ў сатэліцкай краіне.*

## НАШЫ КАРАНІ

### XX. СВЯТАЯ ПАДЗВІЖНІЦА-КНЯЗЁЎНА

Князёўна Прадслава нарадзілася каля 1110 года. Яна была ўнучкай слаўтага полацкага князя Усяслава Чарадзея. Яе набожныя і адукаваныя бацькі — князь Георгій і княгіня Софія — рыхтавалі дачку на будучую ўладальніцу княства. Прадслаўу вучылі модным у той час грэцкай і лацінскай мовам, паводзінам і абыходжанню пануючых, музыцы, танцам. Аднак яна найбольш упадабала малітву і чытанне набожных кніг. У роўных радках, старанліва выведзеных рукою невядомага перапісчыка, маленькая князёўна адкрывала адну Божую праўду за другою, вандравала слядамі Ісуса Хрыста і Яго вучняў па нязнаных краінах, вучылася хрысціянскім паводзінам.

Прамінаў год за годам, і Прадслава вырасла на прыгожую і адукаваную паненку. Настаў час выдаваць яе замуж. У княжацкі палац у Полацку ўсё часцей сталі наведвацца сваты ад суседніх і далёкіх княжычаў. Аднак Прадслава не захацела выйсці замуж. Яна папрасіла бацькоў дазволу пайсці ў манашкі, прысвяціць сябе Богу, малітве і заняцца асветніцкай дзейнасцю. Ні бацькі, ні родзічы як ні стараліся, усё ж не здолелі адхіліць князёўну ад гэтага намеру. Яна пастрыглася ў манашкі і атрымала манашаскае імя Ефрасіння. Зачынілася ў адзіноцтве ў вежы адной з полацкіх цэркваў, горача малілася і пасціла, а ў вольны час ад чытання Свяшчэннага Пісання, малітваў і набожных разважанняў занялася перапісваннем кніг і навучаннем дзяцей. За яе прыкладам пайшлі некаторыя другія князёўны і дочкі знатных палачанаў.

Вакол Ефрасінні пачалі гуртавацца глыбока веруючыя адукаваныя людзі, мастакі, будаўнікі. На свае і родзічаў сродкі яна будавала прыгожыя цэрквы і манастыры. Пабудову даручала выдатным майстрам. Пра аднаго з іх, полацкага дойліда-архітэктара Івана, вядома, што быў ён дасканалым знаўцам будаўнічай справы і валодаў выдатным мастацкім густам. Надзвычай прыгожую Спаса-Ефрасіннеўскую царкву па жаданню і на сродкі Ефрасінні майстар Іван са сваёй арцеллю пабудаваў усяго за трыццаць тыдняў. Гэты храм і па сённяшні дзень служыць праваслаўным палачанам для набажэнстваў і ўпрыгожвае горад. Не меней таленавітымі былі мастакі, якія здобілі новыя цэрквы незвычайнай прыгажосці фрэскамі, выкананымі са срэбра і золата ўбранствамі іконаў, літургічным начыннем, харугвамі.

Пад апекай Ефрасінні ў Полацку і Полацкай Зямлі развіваліся розныя іншыя мастацтвы: разьба, коўка, эмаліраванне, іконапіс і іншыя. Славуты полацкі ювелір Лазар Богша па яе заказу выканаў з золата, дарагога камення, срэбра, эмалі і каштоўнага дрэва выдатнай прыгажосці і вялікай каштоўнасці напрастольны крыж.

У заснаваных князёўнай-манашкай полацкіх жаночым і мужчынскім манастырах дзейнічалі скрыпторыі — майстэрні па перапісцы і здабленні кніг, там таксама знаходзіліся значныя, як на тыя часы, бібліятэкі. Пры манастырах працавалі школы для дзяцей заможных, а таксама для бедных дзяцей Полацка і навакольных сёлаў.

Сама Ефрасіння складала летапіс і пісала літаратурныя творы.

Яе бацькі і яна былі сваякамі і ўтрымлівалі блізкія сувязі з канстанцінопальскім імператарскім домам. Таму ў Полацк часта наведваліся знакамітыя людзі са сталіцы і іншых гарадоў Візантыйскай імперыі. Князёўна-манашка заказвала і атрымлівала адтуль кнігі, іконы, літургічныя прадметы. У канцы жыцця яна наведала Канстанцінопаль, малілася ў яго слаўтых храмах, адтуль паломнічала ў Іерусалім дзеля пакланення Магіле Гасподняй. У Іерусаліме Ефрасіння памерла 23 мая 1173 года. Святыя мошчы яе пасля доўгіх вандровак былі прынесены ў родны Полацк. Ефрасінню Полацкую Праваслаўная Царква залічыла да святых, памяць яе ўшаноўваем 23 мая (па старому стылю), 5 чэрвеня — па новаму стылю.

Дзейнасць падзвіжніцы-князёўны і акружаючых яе людзей красамоўна сведчыць пра высокі ўзровень культуры на беларускіх землях у XII стагоддзі, пра таленавітасць і ахвярнасць нашых продкаў.

1 верасня 1990 года ў Беластоку быў пакладзены краевугольны камень пад царкву, прысвечаную святой апякунцы Зямлі Беларускай — Ефрасінні Полацкай. Урачыстае набажэнства служыў і краевугольны камень пасвяціў архіепіскап беластоцкі і гданьскі Сава. На сённяшні дзень пры пабудове храма ўжо многа зроблена.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

************************************************************************

## ВЕРАСНЁВАЕ МАЛЯВАННЕ

XXVI міжнародны мастацкі пленэр „Белавежа '91" прамільгнуў быццам веснавы дожджык, хаця працягваўся тры поўныя верасьнёўскія тыдні. Гэтае мерапрыемства ўжо даволі моцна ўкаранілася на белавежскай глебе і, здаецца, не страшны яму ніякія фінансавыя цяжкасці. Спонсары заўжды знаходзяцца — як не дзяржаўныя, то прыватныя. Сёлета пленэр падтрымаў беластоцкі бізнесмен Мар'ян Яраш. Ён нават устанавіў грашовую ўзнагароду, якую заваявала мастачка з Беластока — Аліцыя Хароцей.

У пленэры ўдзельнічала 25 мастакоў — з Беластока, Варшавы, Кракава, Вроцлава, Ломжы, Гданьска, а таксама з Беларусі, Літвы і Германіі. Было шмат новых асоб, якія раней на белавежскае маляванне не прыязджалі. Камісарыў Анджэй Дваракоўскі з Беластока. Надвор'е спрыяла мастакам, таму і прац паўстала шмат, звыш 150. Як заўсёды, у памяшканнях Прыродазнаўчага музея наладзілася выстаўка плёну пленэру (паказана каля 100 прац). На жаль, камісар не паклапаціўся, каб кожнае палатно мела надпіс з інфармацыяй пра аўтара і загаловак. Гэткая неахайнасць тыповая для белавежскіх выставак. Думаю, што калі ўжо працы будуць паказаны (у снежні г.г.) на выстаўцы ў Беластоку, там больш задбаюць пра такую інфармацыю.

Хаця палоцен сёлета мастакі намалявалі многа, надта ўдалых прац было няшмат. На першым месцы я б паставіў метафарычна-сімвалічныя пейзажы Бенедыкта Краплеўскага. Вроцлаўскі мастак умела супастаўляе колеры, яго палотны маюць уласны, непаўторны настрой. Цікавыя таксама пейзажы, на гэты раз рэалістычныя, Антонія Кавалкі з Кракава. Мастак даволі арыгінальна супастаўляе колеры. На выстаўку трапілі палотны са старым мосцікам на Нараўцы і дзікам у пушчы. Яго сябра, Збігнеў Парчала, ужо слабейшы ў пейзажы.

З замежных мастакоў найлепш паказаліся Антанас Абцаркас з Каўнаса і Сяргей Грыневіч з Гродна. Літовец намаляваў даволі арыгінальныя расліна-кветкавыя кампазіцыі, кожная ў іншай танальнасці, але ўсе дужа яркія. На адным з палотнаў можна нават угледзець... бананы! Сяргей у сваю чаргу ўжывае тэхніку тэмперы на палатне. Яго працы, аднак, надта герметычныя. Мастак змешвае метафару з сімволікай. Шкада, што працы выразна не называе, даючы ім надпіс: „Без загалоўка". Арганізатары пленэру прызналі Сяргею грашовую ўзнагароду.

Не надта ачаравала слаўтая пушча Віктара Шоціка з Вільні. Ён намаляваў тут... „Параненага мінатаўра", „Крадзеж Еўропы", „Амазонку". Мастацкі ўзровень прац — невысокі. Тэхнічна намнога лепшы Станіслаў Кічко з Гродна. Яго палотны могуць падабацца, але на ўсіх прадстаўлены матывы з... Гродна. Хочацца спытаць мастака: „Навошта было ехаць у Белавежу?"

Не надта захапляюча выпалі мастакі з Германіі. Эдмунд Гунш з Берліна намаляваў, ужываючы простыя сродкі, некалькі імглістых пейзажаў, з якіх найлепшы — з зубрамі. Лідзія Бурштайдт з Брэмена ў сваю чаргу можа звярнуць увагу гледача, бадай, толькі рэалістычна намаляванай галавой зубра.

Варты ўвагі яшчэ працы Івоны Сельскай-Дэптулы з Ломжы (фрагменты пушчы, прадстаўленыя ў ашчадных колерах) і Рышарда Кузышына з Беластока (захапляе асабліва адна карціна — з раскінутымі на Белавежскай паляне домікамі і іконамі пад імі).

Атмасферу XXVI белавежскага пленэру можна будзе таксама пасмакаваць, гледзячы паўгадзінную перадачу, якую тэлевізія плануе паказаць у цыкле „Галерэя 38 мільёнаў", у лістападзе г.г. Рэалізаваў яе Францішак Кудук.

**ПЁТР БАЙКО**

## БУДАЎНІКІ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

(2)

Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства — гэта другая фірма, якая ўзялася будаваць Беларускі музей у Гайнаўцы. Калі зусім нечакана, у канцы мінулага года, прыйшла датацыя на пабудову музея, трэба было хутка і трапна вырашыць, каму даручыць гэту задачу. Выбралі вышэй названую фірму, якая ад дзесяткаў гадоў вядомая па ўсёй Беласточчыне. Стварылася яна ў 1950 годзе. На працягу сарака гадоў гэтае прадпрыемства пабудавала многа жыллёвых і прамысловых аб'ектаў на Беласточчыне. Будавала яно кватэры і на Шлёнску. Найбольш будавалі ў раёне Бельска, Гайнаўкі і Сямяціч. У Гайнаўцы амаль усе жылыя будынкі пабудаваны гэтым прадпрыемствам. Бельская „будаўлянка" мадэрнізавала і разбудоўвала Гайнаўскі завод сухой дыстыляцыі драўніны, Гайнаўскі машынны завод „Гамех", Гайнаўскае дрэваапрацоўчае прадпрыемства (зараз суполка „Furnel"). Будавала таксама раённы кааператыў „Лес", камендатуру паліцыі, паслугова-гандлёвыя павільёны. Прашу прабачэння, калі не пералічаў усяго, але сапраўды было гэтага многа. На прадпрыемстве ёсць багатая тэхнічная база і высокакваліфікаваныя кадры. Яно ў сілах выканаць любое будаўнічае заданне. Зараз „будаўлянка" будуе ў Гайнаўцы раённую бальніцу на 272 месцы, жылыя блокі на пасёлках Мазуры, Падляшша і на вул. Арміі Краёвай. Будовамі ў Гайнаўцы кіруе інжынер Уладзімір Сахарчук. У сваёй прафесіі працуе ўсё дарослае жыццё. На працягу 30-ці гадоў прайшоў усе ступенькі кар'еры — ад муляра-тынкоўшчыка да кіраўніка будовы. Ён таксама член Камітэта пабудовы Беларускага музея. Гэты менавіта камітэт даручыў яго фірме ў снежні мінулага года будову часткі „Ц", у якой будуць экспазіцыйныя залы. Калі закончыліся зямныя работы, на будову ўвайшла брыгада цесляроў Якуба Касцючыка з Тыневіч-Вялікіх. Ён сам працуе будаўніком ужо 29 гадоў. Яго брыгаду можна назваць сямейнай. У ёй працуе яго брат Мікалай (21 гадоў працы ў будаўніцтве) і сын Адам (3 гады працы). Некалькі месяцаў у гэтай брыгадзе працуе таксама Анатоль Менюк з Барка. Брыгада тая найдаўжэй працуе пры будынку „Ц". Кіраўніцтва будовы лічыць яе адной з самых лепшых на прадпрыемстве.

Пішучы аб будаўніках музея, нельга не сказаць аб працаўніках геадэзіі. Яны заўсёды працуюць перад будаўнікамі, а іх заданне — дакладна вызначыць, згодна з праектам, месца пабудовы. Большасць гэтых прац геадэзісты выканалі на грамадскіх пачатках, або за невялікую плату. Пры нагодзе хачу сардэчна, з усяго сэрца падзякаваць усім тым, што будавалі і дапамагалі будаваць наш музей.

**МІХАЛ ГОЛУБ**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*Вершы Віктара Шведа*

### НА РЫБАЛЦЫ

— Цэлы дзень тырчыць ваш тата
На рыбалцы хіба.
Ці ён прынясе дахаты
Хоць некалькі рыбак?

— Прынясе, — азваўся Янка, —
Татка наш харошы.
Бачыў я, як браў ён зранку
На рыбалку грошы.

### НА ПЕНСІІ ЎЖО ОЛЯ

Нямнога прыхварэла
Бабулі ўнучка Оля.
Яна ўжо тыдзень цэлы
Не ходзіць да прадшколля.

І толькі гулі, гулі
У Олінай праграме.
— Я ўжо цяпер, бабуля,
На пенсіі таксама.

### ЦЕСНАТА

Купіў тата Федзі
Фіяціка малога.
Федзя з татам едзе
Фіятам у дарогу.

— Думаю, што фіятам
Нашым не ганьбуеш?
— Ты купіў нам, тата,
Цеснату такую.



*Я – дзяўчынка - беларуска.*

**Фота З. Яўтуховіча.**

**Леанід Пранчак**

### БЕЛАРУСЬ — МАЯ РАДЗІМА

Цік-так,
Цік-так —
Ходзікі.
Мне —
Чатыры годзікі.
Валасы —
Светла-русыя.
Тата з мамай —
Беларусы.
Я —
Дзяўчынка-беларуска
З васільковымі вачыма.
Хоць малая,
Але знаю:
Беларусь —
Мая радзіма.




**Віктар Шніп**

### ПАКРЫЎДЖАНЫЯ КАМАРЫ

Сёння зранку на двары
Танцавалі камары.
Камары, камарыкі,
Вострынькія тварыкі.
Верабейка прылятаў
І танцораў разагнаў.
І ў цяністым у бары
Звонка плачуць камары.

### ГАСПАДАРЫ

Да майго суседа Мішы
Гаспадарыць ходзяць мышы.
Да маёй сяброўкі Райкі
Па капусту ходзяць зайкі.
А да нас у агарод
Гаспадарыць ходзіць крот.
Да сваёй сястрычкі Веркі
Лажу ў сумку па цукеркі, —
Я штодня салодка мару,
Што над сумкай гаспадару.

### ТАТА З МАМАЙ У КІНО

Тата з мамай у кіно,
Я сяджу гляджу ў акно.
Мне ісці на двор пара,
Там гуляе дзетвара.
Я збудую дом з пяску
І аддам яго катку,
Што хаваецца ў кусце
З белым бантам на хвасце.
І як вернуцца дамоў
Тата з мамаю з кіно,
Смела ім скажу ізноў:
— Наглядзеўся я ў акно,
Мне на двор ісці пара.
Там гуляе дзетвара.
Я збудую дом з пяску
І аддам яго катку,
Што хаваецца ў кусце
З белым бантам на хвасце.
Толькі без мяне задно
Не хадзіце вы ў кіно!



*******************************************************************

## МІКІТКАЎ СОН

На вуліцы было надта горача. Мікітка скінуў кашулю, застаўся ў адных трусіках і сандалях, але ўсё роўна не было рады ад гарачыні. Сонца пякло, награваючы сцены дома, б'ючы ў шыбы і адсвечваючы ад іх новымі гарачымі промнямі. Было так млосна, што не хацелася гуляць ні ў якія гульні.

І раптам Косцік, які заўсёды быў здатны на выдумкі, зірнуў на сяброў павесялелымі вачыма і крыкнуў:

— Давайце абліваццa вадою!

Уміг усе ажылі, ускочылі з лаўкі і пабеглі дахаты па бутэлькі.

Бутэлькі былі не шкляныя, іх можна было сціскаць рукамі, як гумовыя. З крана налівалася вада, у корках рабіліся дзірачкі — і бутэлькі-палівачкі гатовы. Дзеці не раз забаўляліся такою гульнёю. А цяпер, у гарачыню, хіба можна было прыдумаць забаву весялейшую?!

Неўзабаве хлопчыкі бегалі па двары з тымі бутэлькамі і аблівалі адзін аднаго. Халодная вада струменем біла ў разгарачанае цела, збягала, казычучы бок або спіну, да самых трусікаў. Часам струмень трапляў у лоб, і тады вада цякла па носе і барадзе. Струмень трапляў то спераду, то ззаду, то з бакоў, і хутка ўсе хлопчыкі былі мокрыя з ног да галавы.

Халодная вада асвяжала, і дзеці абліваліся б, мусіць, да вечара, каб не паклікалі іх абедаць.

Прыбег дадому і Мікітка. Бабка аж рукамі пляснула, убачыўшы мокрага ўнучка, пачала яго выціраць, А потым накарміла і загадала:

— Спаць! Пасля абеду — смачны сон!

Прывык Мікітка бабку слухацца. Спаць дык спаць. Лёг і адразу заснуў.

І прыснілася яму, што бегаюць дзеці па двары і вадою з бутэлек абліваюцца. І раптам — галасок, тоненькі, кволы. Ці то скарга, ці то песенька. Прыслухаўся Мікітка, і праўда — песенька:

Не магу я з дзеткамі забаўляцца
І вадой з бутэлечкі абліваццa,
Прырасла я ножкаю да зямлі,
Хоць бы ты, Мікітка, мяне паліў.

Азірнуўся Мікітка ў сне і бачыць: кветачка, што расла ў двары пад акном, апусціла галоўку ледзь не да зямлі і плача, але плача без слёз. На слёзы вада патрэбна, а кветачка ні кроплі вады не мае, усю высушыла пякучае сонца.

Цікава ў сне Мікітку: няўжо кветачка ўмее спяваць? Хіба яна жывая?

А калі прачнуўся — адразу на двор, пад акно, дзе, і праўда, расла кветачка. Глядзіць — ну і дзіва, зусім як у сне: абвяла кветачка, галоўку апусціла, лісточкі вісяць, нібы анучкі. Толькі нічога не гаворыць кветачка, не спявае песенькі, маўчыць. А Мікітка ж помніць тую песеньку слова ў слова.

Пабег Мікітка дадому, набраў поўную бутэльку вады і назад у двор. Нахіліўся да кветачкі, пачаў струменьчыкам ліць ваду пад яе ножку.

Кветачка прагна піла. Мікітка ліў, ліў, а яна ўсё ніяк не магла задаволіцца. Хутка бутэлька апусцела, і Мікітка пабег дадому, каб набраць яшчэ вады.

Калі з поўнаю бутэлькаю вярнуўся назад, то ўбачыў цуд. Сцяблінка выпрасталася, лісточкі падняліся ўгору, а вясёлая кветачка глядзела на Мікітку і ўсміхалася. Так, так, усміхалася!

А тут мама з работы ідзе, спынілася каля Мікіткі паглядзець, на што ён дзівіцца. Мікітка ў яе і пытаецца:

— Мама, а кветка хіба жывая?

— Вядома, жывая, — адказала мама

**ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ.**

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

# ПРЫГОДЫ МЫШКі ПІК-ПІК

МЫШКА СТАНОВІЦЦА ПТУШКАЙ

Аднойчы ночай мышка Пік-Пік вылезла з норкі і пабегла на кухню, каб пашукаць чаго-небудзь паесці. Там яна знайшла вялікі батон і пачак малака. Запіваючы хлеб малаком з пачка, які быў такі вялікі і цяжкі, мышка ўся аблілася.

Бегучы да сваёй норкі, па дарозе натрапіла разгорнуты альбом з маркамі. Гэта быў альбом дзяўчынкі Веранічкі. Веранічка — добрая дзяўчынка, але не заўсёды кладзе на месца свае рэчы. Вось і гэты альбом яна перад сном пагартала і кінула на падлогу...

Абнюхала мышка Пік-Пік альбом — ці можна яго з'есці? Але ён нічым смачным не пах, і мышка вырашыла бегчы далей. Але да яе мокрага носа прыліпіла адна смелая марка. Паспрабавала Пік-Пік стрэсці яе, але нічога не атрымалася. Марка прыліпіла яшчэ мацней.

„Гэтыя маркі напалі на мяне, — вырашыла мышка Пік-Пік. — Таму я павінна сама напасці на іх і разагнаць!"

Плюхнулася мышка на альбом з маркамі і пачала раскідваць іх у розныя бакі. А маркі пачалі прыліпаць да мокрай мышкі, і хутка ўсю яе абляпілі. Пік-Пік зрабілася стракатая і прыгожая.

Агледзела сябе мышка і сказала: „Гэта не я. Трэба паглядзець у люстэрка і даведацца, хто гэта".

Мышка залезла на стол і паглядзела ў люстэрка.

„Так, зразумела. Я болей не мышка. Я — птушка. Толькі птушкі бываюць такімі стракатымі і рознакаляровымі". Падумаўшы яшчэ, мышка сказала: „Калі я птушка, я павінна лётаць. Трэба паспрабаваць".

Заплюшчыла мышка Пік-Пік вочы і саскочыла са стала. Але яна была такая ліпкая, што прыліпіла ўсімі маркамі да настольнай цыраты, і павісла дагары нагамі!

Вочкі ў мышкі былі па-ранейшаму заплюшчаныя, і яна вырашыла, што ляціць.

„Як дзіўна, — думала мышка, — я лячу, нават крыламі не махаю? Трэба было б памахаць!"

І мышка Пік-Пік пачала махаць лапкамі і хвосцікам і загайдалася разам з цыратай. Гайдалася, гайдалася, пакуль не звалілася.

Упала мышка Пік-Пік на падлогу, і маркі з яе абсыпаліся. Мышка паглядзела на сябе і ўбачыла, што яна больш не птушка. Узрадавалася Пік-Пік і пабегла да сябе ў норку, спаць.

„Добра, што я зноў мышка, — думала Пік-Пік. — Калі б я сталася птушкай, ужо не змагла б жыць у норцы. Трэба было б будаваць гняздзечка. А дзе яго тут збудуеш?.. І спаць хочацца...

І мышка Пік-Пік заснула.



*Мышка Пік-Пік і бульба. Малявала Кася Леанкевіч з бельскай „тройкі".*

# ЖЫВЫЯ БАРОМЕТРЫ

Летні поўдзень. У густым разнатраўі, якое падступае да самай вады, заклапочана гудуць пчолы. З аднаго берага затокі на другі раз-пораз таропка пералятаюць матылькі-бялянкі.

Душна. Рыба не бярэцца.

Я зірнуў на паплавок, што нерухома ляжаў на вадзе паміж дзвюма лілеямі, і тут жа ўбачыў, што кветкі чамусьці раптоўна закрылі свае пышныя бутоны. Чаму б гэта?

Я заўважыў, што лілеі нават паволі апускаюцца ў ваду.

Толькі белыя чубкі з вады бачны. А вось і зусім зніклі, ды так таропка, што сіняя страказа, што сядзела на адной з кветак, замачыла ў вадзе чорныя ножкі.

У хуткім часе глуха прагрымеў гром. Потым яшчэ. Я ўзняў галаву.

Па блакітнаму небу з-за лесу на раку хутка рухалася вялізная чорная хмара.

Будзе дождж.

Схавацца ад непагадзі не было дзе. А да палаткі было не блізка. І я паспяшаўся да густога лазовага куста на лузе.

Бліснула маланка, злосна прабурчэў гром. Першыя буйныя кроплі бойка залопалі па лістках куста.

Дождж узмацняўся. У куст таропка ўляцела маленькая шэрая птушачка. Яна ўладкавалася ў метры ад мяне на галінцы, распусціла пёркі і сцішылася. Так мы з ёю тут удваіх і перачакалі дождж.

Калі ж выглянула сонца, запаліўшы ў мокрай траве тысячы рознакаляровых ліхтарыкаў, мы пакінулі сваё схованішча.

Я вярнуўся да вудачак. Гляджу — зноў белыя лілеі на вадзе плаваюць.

Праз нейкі час кветкі раскрылі свае снежна-белыя пялёсткі. На адзін з іх прысела мокрая пліска.

Пасля гэтага выпадку белыя лілеі сталі для мяне жывымі барометрамі. Сціснуліся кветкі пасярод дня, схаваліся ў ваду — быць дажджу. Няма ранкам на небе ніводнай хмаркі, і лілей ідзе не відаць у затоках — таксама на дождж. А ўжо калі яны белымі лебедзямі плаваюць на паверхні вады — будзе пагодлівы дзянёк... А гэта азначае, што і рыба добра будзе брацца.

РЫГОР ІГНАЦЕНКА

*********************************************




Бацька правярае дзённік у Васілька:

— Калі ты, — пытаецца, — перастанеш насіць дадому двойкі?

— На канікулах, — адказвае той.

* * *

— Сяргей, уяві, што ты плывеш у човне і раптам у днішчы з'явілася дзірка. Што ты будзеш рабіць?

— Зраблю другую дзірку, каб з яе выцякла вада, якая трапіла праз першую дзірку.

* * *

— Тата, я ўмею плаваць двума спосабамі.

— Якім чынам?

— То адною нагою па дне, то другою!

* * *

Размаўляюць два хлопчыкі:

— Кажуць, Юлій Цэзар мог рабіць адразу тры справы і ўсе тры добра.

— Падумаеш! Я адразу раблю пяць спраў: вучу ўрокі, слухаю маці і радыё, гляджу тэлевізар і да ўсяго — сплю.

* * *

— Скажы, Пеця, колькі ў ката ног?

— Калі стаіць, то чатыры, а калі бяжыць — больш, але я не магу падлічыць.

* * *

— Колькі ў вашым класе выдатнікаў?

— Без мяне — чацвёра.

— А калі з табой?

— Але ж я не выдатнік.

* * *

Зазваніў тэлефон. Пяцігадовы хлопчык узяў трубку.

— Слухаю.

— Пакліч маці або бацьку.

— Іх няма дома.

— А хто яшчэ ёсць акрамя цябе?

— Сястра.

— Пакліч яе, калі ласка.

Пасля некаторай паўзы хлопчык узяў трубку.

— Я не магу сястру выцягнуць з калыскі.

( В. Б.)

Беларускія гульні

## Клубок

Дзеці стаяць у крузе і гавораць нараспеў: „Холадна стала, трэба ніткі матаць". Назначанае дзіця падыходзіць па чарзе да кожнага, кланяецца і запрашае ісці за сабой. Так працягваецца да таго часу, пакуль усе не стануць адзін за адным, узяўшыся за рукі. Першы ў радзе пачынае рухацца па спіралі і вядзе за сабой астатніх. Так утвараецца вялікі клубок. Пасля гэтага першы ў радзе гаворыць:

— Холадна стала. Вось і гатовы наш клубок. Трэба цёплы шаль вязаць.

У гэты час клубок пачынае размотвацца ў доўгі ланцужок, і тады дзеці гавораць:

— Які доўгі і цёплы шаль атрымаўся.

Дзеці павінны моцна трымацца за рукі пры ўтварэнні клубка і пры размотванні яго ў доўгі ланцужок.




БССР, 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнка, д. 9, кв. 395, **Наташа Галко** (12 гадоў, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай).

* * *

Беларусь, 225510, Брэсцкая вобл., Столінскі раён, г. Столін, вул. Шаўчэнкі, д. 9. **Мельнік Марына Ф.**

* * *

Молдова, 279200, г. Бэлць, ул. Потье 25/1, **Бирюкова Инна** (14 гадоў, вучыцца ў IX класе).

* * *

Беларусь, 220068, г. Менск, вул. Кахоўская, д. 25, кв. 26, **Дуброўская Святлана** (11 гадоў, любіць маляваць, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай 10-12 гадоў).

* * *

Беларусь, 211412, г. Полацк, вул. 6-ай гв. Арміі, д. 3, кв. 59, **Нарэйка Святлана** (12 гадоў).

АДГАДАНКА



Знайдзі два аднолькавыя ключы.




Ох, Сэрцайка! Каб ты ведала, што мне давялося перажыць! Які сорам!

А ўсё пачалося зусім нявінна. Калі ў мяне нарадзілася дачушка, я кінула на нейкі час працу, пайшоўшы ў выхаваўчы водпуск. Праўду кажучы, я ўжо не магла дачакацца, калі пайду на работу. Так страшна хацелася быць ужо сярод людзей, апранацца, выглядаць як чалавек. Тым больш марыла я вырвацца з дому, што муж мой, хаця чалавек малады, дык надта нервовы.

Ужо маёй дачушцы споўнілася тры годзікі, і час майго водпуску канчаўся. Я цешылася. Муж зусім распесціўся пры жонцы, якая „сядзела ў хаце". Прывык, што прыйдзе з працы, дык усё яму наварана і нададзена, а намагаць нічога не мусіць („А што ты рабіла цэлы дзень?"). Я цярпела, бо ведала, што дні такой „селянкі" хутка скончацца. Вось вярнуся на працу, аддам дзіця ў прадшколле, а ён няхай сабе тады падскочыць. Будзе рабіць усё ў хаце, як міленькі, думалася мне.

Тым часам, аднак, я яшчэ „сядзела" ў хаце і абслугоўвала свайго мужа. Каторагась дня прыйшоў ён з працы, а я падала яму пельмені. „Хатняй работы?" — кінуў ён, не гледзячы на мяне. „Хатняй!" — прымільна адказала я, спускаючы вочы, бо выйшла з малой у горад і, не маючы часу, каб валаводзіцца з гэтымі пельменямі, купіла гатовыя ды ўкінула іх у падрыхтаваны раней булён.

Мой муж спрабаваў пельмені. Ускочыў з-за стала, як апараны. Адпіхнуў дзіця, а табурэткай шпурнуў у сцяну так, што выбілася ў ёй дзірка. Дачушка расплакалася, а я, прывыкшая да розных сцэн, нават не вельмі здзівілася.

Але вось мінуў мо тыдзень, мне трэба было ісці на фабрыку афармляць нейкія дакументы, бо ўжо я вярталася на працу. Малую ўзяла з сабою.

На рабоце мае сяброўкі абступілі нас. Малая ім вельмі спадабалася. „Ну, што ў цябе чуваць?" — спыталася адна. „А вось нічога асаблівага, — адказала зусім сур'ёзна мая дачушка. — Вось тата знерваваўся быў, што мама пельменяў сама зрабіць не хацела, а пайшла і купіла ў магазіне, — шчабятала яна далей, — дык так шпурнуў табурэткай у сценку, што аж выбіў дзірку!"

Мае сяброўкі пераглянуліся між сабой, ніводная нават не ўсміхнулася. Мне стала вельмі сорамна і прыкра, што дзіця так разгаварылася. Я павінна была ісці далей афармляць свае справы, і сяброўкі з майго пакою запрапанавалі, каб я ішла адна наверх, а яны папільнуюць малую. Я, аднак, не згадзілася. Баялася, што нагаворыць ім столькі, што пасля працу давядзецца мяняць.

Бачыш, Сэрцайка, якія клопаты можна мець з-за дзяцей!..

**Міля**

Міля! Клопаты твае не з-за дачушкі, а з-за мужа. Дзіця ёсць дзіця, і пра гэта павінен быў памятаць твой муж, калі неразважна дэманстраваў сваё хамства пры дачушцы.

**СЭРЦАЙКА**




## З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ

### САЛАТА З ПАПРЫКІ І ПАМІДОРАЎ

Узяць: 500 г папрыкі, 500 г памідораў, 500 г цыбулі, 500 г змеленага мяса, 1 лыжачку солі, крыху перцу, 1 лыжачку прыправы для супоў, 4 лыжкі алею.

Дробна нарэзаную цыбулю і мяса падсмажыць на алеі, дадаць солі і перцу, прыправу для супоў, тушыць некалькі мінут, а пасля дадаць нарэзаныя на кавалкі папрыку і памідоры. Крыху патрэсці глыбокай патэльняй. Не пакідаць занадта доўга на агні, каб гародніна не разварылася — яна павінна быць цвердаватая. Разварaная — страціць колер, смак і выгляд.

### ПАПРЫКА ПА-ФЛАРЭНЦКУ

На 6 струкоў папрыкі дзеля фаршу трэба падрыхтаваць: 200 г рысу, 2 лыжкі масла, 1 жаўток, дробна пасечаную зялёную пятрушку, 3 лыжкі „пармезану" (можа быць звычайны жоўты сыр, сцерты на тарцы), соль, перац.

Усе прадукты на фарш перамяшаць, фаршыраваць імі струкі папрыкі, заліць памідорным соусам і пячы ў духоўцы пад пакрыўкай паўгадзіны (памідорныя соусы дамо ў наступным нумары).

### БРУСЕЛЬКА ПА-РЫМСКУ

На 500 г брусельскай капусты трэба ўзяць 6 філетаў сардэлі, 50 г масла, 3 лыжкі „пармезану".

Ачышчаную і памытую брусельку тушыць 10 мінут у масле, не дадаючы вады. У часе тушэння некалькі разоў патрэсці каструлькай, не мяшаць, каб не пашкодзіць брусселькі. Тады перамяшаць з пасечанымі філетамі з сардэлі і „пармезанам", ды падаваць, палажыўшы на рыс ці макарон.

### ФАРШЫРАВАНЫЯ БУРАКІ

На 6-9 аднолькавых буракоў узяць 6 філетаў сардэлі, 2 крутыя яйкі, 1 лыжку каперсаў, 1-2 лыжкі зёлак: зяляніны пятрушкі, базылііі, 2 лыжкі алею, 1 лыжку віннага воцату, 1/2 лыжачкі муштарды.

Буракі вышараваць шчотачкай і палажыць адзін каля другога на бляшку, змазаць іх алеем і пячы ў духоўцы каля паўгадзіны. Тады буракі абабраць, выразаць з іх сярэдзіну, звонку і ўнутры змазаць алеем і воцатам і фаршыраваць дробна пасечанымі: сардэляй, яйкамі, каперсамі і пасечанымі зёлкамі, перамяшанымі з алеем, воцатам і муштардай.

### СЭЛЕР ПА-ТУРЫНСКУ

На 1-2 сярэдняй велічыні сэлера трэба ўзяць 1/4 л булёну, 40 г масла, 40 г „пармезану".

Добра вышараваныя сэлеры нарэзаць скрылёчкамі, варыць у булёне мінут 20. Тады злажыць пластамі ў вогнетрывалы, змазаны маслам посуд, пасыпаючы „пармезанам". Паліць растопленым маслам і запякаць 10 мінут у духоўцы.

### ШПАРАГІ ПА-МІЛАНСКУ

На 750 г шпарагаў трэба ўзяць 60-80 г цертага сыру, 80 г масла, соль.

Памытыя шпарагі зварыць у насоленай вадзе, сачыць, каб не пераварыць. У вогнетрывалы, змазаны маслам посуд складваць пластамі шпарагі, пасыпаючы іх вялікай колькасцю цертага сыру. Апошнім пластом павінен быць церты сыр. Паліць растопленым маслам і запякаць у духоўцы.

**ГАСПАДЫНЯ**

****************************************************************




Дарагі Астроне! Прысніўся мне вось такі сон. Добрае, ці кепскае абазначае ён, адкажы як найхутчэй. Стаю я на балконе сваёй кватэры. Кветкі там пасаджаны (так і ў сапраўднасці), але вось у сне пасярэдзіне балкона стаіць на падлозе вазон — высокі, лісцясты, прыгожы. Я стаю пры ім і як бы гавару да яго: „Прыгожая ты кветка..." У гэты час ідзе вялікі дождж, аж забівае на балкон. Ну, і канец сну.

**Марыся**

Сніцца, што да мяне прыйшлі тры жанчыны. Адна працуе ў той жа фірме, што і я. Як бы прыйшлі мяне наведаць. Я знаходжуся нібы ў сваім доме, але то не той, дзе я жыву. Дом той стары, занядбаны, з ганкам. Тыя жанчыны прынеслі нейкія шмацяныя, цёмныя сумкі. Паставілі на ганку. У сумках было мяса. Запамяталася мне галёнка, рэшты не ведаю, якое то мяса. На тым жа ганку сядзелі каты. Аднаго з тых катоў узяў на рукі мой муж. Каты былі прыгожыя, пушыстыя. І ён так перада мной хваліў таго ката.

**Геня**

Марыся! Твой сон вельмі добры. Калі сніцца дождж, чакае цябе поспех у справах, нейкі буйны прыбытак. Тое, што вазон твой рос так прыгожа, абазначае, што будзе радасна.

Геня! Сон твой не вельмі добры. Дом быў стары і занядбаны. У сумках было мяса. Мяса бачыць ці есці варанае — поспехі ў справах, але сырое — хвароба і смутак.

А найгоршыя тыя каты (хаця ў сне былі прыгожыя). Ці не прыгалубіць выпадкова твой муж нейкага хітрага і прадажнага чалавека, які ашукае яго... Вынікнуць з гэтага непрыемнасці.

**АСТРОН**

## НАША ПОШТА

### З УКРАІНЫ АБ „ПОЖНІ"

Пішу вам ліст з Украіны і хачу праз вашу газету выказаць сваю ўдзячнасць аўтару кніжкі „Пожня" Васілю Петручуку, які жыве ў вашым горадзе. Кніжка гэта цікавая, змястоўная і вельмі мне спадабалася. Падабаецца мне спосаб яе напісання — чытаецца лёгка і проста. Хацелася б мне прачытаць працяг гэтай кніжкі і даведацца пра далейшы лёс гэтага чалавека, а ён у яго, думаю, быў нялёгкі.

Яшчэ хачу пажадаць В. Петручуку далейшых творчых поспехаў.

**Галіна Долгава, Крамянчуг**

* * *

Хаця я і жыву на Украіне, але мне ўдалося дастаць кніжку „Пожня". Хачу я падзякаваць Васілю Петручуку за яго труд, за кнігу пра яго горкае сірочае дзяцінства, якую немагчыма чытаць без хваляванння. Прачытаўшы гэту кніжку, я доўга была пад яе ўражаннем, а перад вачамі доўга стаяла лаўка, на якой ён спаў, дзе зімой замярзала вада, яго босыя ногі з цыпкамі, якія абаграваў сабою, калі пасвіў кароў. І хаця ў яго быў бацька і многія сваякі, рос ён нікому непатрэбным сіратой. Нават у час пахавання бацькі ніхто на яго не звярнуў увагі, калі ўсе разышліся з могілак, а ён плакаў на магіле бацькі. Думаю, што гэты чалавек пражыў цяжкое жыццё і да ўсяго яму даводзілася дабівацца самому.

Мне падабаецца і тое, як ён піша — проста, без упрыгожанняў, без мастацкіх выдумак, на вясковай гаворцы.

Мне хацелася б пажадаць гэтаму чалавеку творчых поспехаў у яго нялёгкай працы.

**Аляксандра Ешчанка**

## ПАРНАСІК

*

выцягваю рукі
да беларускага сонца
яно гаворыць
будзе трава
толькі зялёных вачэй
ужо не знайду

### МАЯ ЖОНКА

калі апранае белую сукенку
гляджу летам
калі загарае ў кветках
гляджу вясною
ў яе зялёныя вочы
гляджу восенню
як яна распранаецца

### ДЗЕНЬ

Белы дзень
ішоў па сухіх вуліцах
раніцай
глядзелі серабрыстыя птушкі

Дзед сляпой палкай
ішоў па акасцянелым бруку
вароны з раллі
ўзляталі ў зімовае неба
сухія травы гралі
з ветрам

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ПАТУШЫЦЬ ЦІ НЕ?

Комплексная электрыфікацыя Бельскай гміны праходзіла недзе ў шасцідзесятых гадах. Мужыкі, ведаючы аб тым, якое дабрадзейства прыносіць электрычная энергія, ахвотна вазілі слупы, капалі ямкі, кватэравалі на ўласны кошт тэхнічныя брыгады. Усё дзеля ўласнае выгады.

Зараз сяляне перасталі плаціць падаткі. Такі пратэст аб'явіў Гмінны саюз гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацыяў у адказ на цяжкасці з прадажом харчовых артыкулаў. Гмінныя чыноўнікі з Бельска пагражаюць за гэта выключэннем вулічнага святла ва ўсіх вёсках, калі грошы не будуць паступаць у гмінную касу. Падобны адказ на розныя формы пратэсту хлеборобаў гучэў і ад папярэдніх начальнікаў гміны.

—Войт гміны Бельск не патушыць святла прынамсі да лістапада, бо ён хоча астацца паслом, — разважаюць вясковыя актывісты.

— А на выбарах патушыць абавязкова, таму што гміна фінансава не багатая.

Калі налічыць усе абавязацельствы за год, дык назбіраюцца мільёны. Улады дасканала ведаюць аб гэтым. На жаль, усё нейк не разумеюць сітуацыі сялян. Ці так ужо і астанецца?

**В. Семянюк**

## АДНАГАЛОСНА

**(Гумарэска)**

Таварышы! Слухайце мяне ўважліва. Суботнік мы будзем праводзіць з вамі ў аўторак. Таму што ў суботу мы працуем па серадзе, якая была прыяднана да мінулых свят. Лічылася, што гэта было зроблена па просьбе працоўных. Таму сама серада лічылася нядзеляй. А паколькі ў нядзелю мы працуем за 8 сакавіка мінулага года, калі ўсе святы былі аб'яднаны, лічыліся Новым годам і святкаваліся па 28 лютага ўключна. Апроч адной суботы, калі мы ўсе працавалі па просьбе працоўных. Памятаеце, тады яшчэ адзін наш таварыш атруціўся ў нашай сталоўцы, якая першай у краіне перайшла на безадходную вытворчасць?

Але нас гэта не датычыцца. На суботніку мы будзем разграбаць снег, які пойдзе па накладной і будзе лічыцца як апаўшае лісце. Паколькі гэтыя накладныя ў нас засталіся ад неадпрацаванага суботніка шэсцьдзесят другога года. Памятаеце, калі яго раптам замянілі на сустрэчу пасла Ганалулу? Ён, праўда, аказаўся паслом Гвадалупы... Ды нічога страшнага не адбылося — усё абыйшлося. Мы стаялі не на той вуліцы, па якой ён ехаў. І не ў той дзень, калі трэба было...

Але нас гэта таксама не датычыцца. На суботніку па спісах нас будзе 1200 чалавек. Але! Мінус начальства, грамадскія актывісты, самадзейнасць, донары, жанчыны, якія лічаць сябе цяжарнымі... Словам, у суботніку будуць прымаць удзел 7 чалавек! Як і ў мінулы суботнік. Памятаеце, пасля яго мы святкавалі безалкагольнае вяселле? Яно яшчэ лічылася безалкагольным, таму што на сталах не стаялі пляшкі з гарэлкай. А ўсе перапіліся півам. Таму што яно лічыцца безалкагольным напіткам. Таму ўсе запівалі ім самагон, які быў наліты ў супніцы, разліваўся па талерках палонікам і называўся курачым булёнам. Гэты булён не піў толькі адзін чалавек. Ён піў сапраўдны курачы булён. Таму, дурненькі, адзіны, хто атруціўся...

Але нас гэта тым болей не датычыцца. Так што галасуем... Хто за? Нікога? Ну што ж, нас гэта тым больш не датычыцца.

Будзем лічыць – аднагалосна!!!

**МІХАСЬ ЗАДОРНАЎ**

*Пераклаў з рускай мовы Пятрусь Капчык.*









Мал. Р. Міроўскага *(„Карузеля")*

## ІЗМЫ

**Са школьнага сачынення**

„Пасля рэвалюцыі ў нашай краіне рабілі ўсё, каб не было ні бедных, ні багатых".

**З заявы ў таварыскі суд**

„Прашу за знявагу маёй асобы прыцягнуць да адказнасці слесара Фінгалава І. Н., які абазваў мяне „апаратчыкам".

*Газаапаратчык А. П. Сідараў."*

**З дзённіка мухі**

„Учора ўвесь вечар я не выходзіла з экрана тэлевізара".

**З біяграфіі**

„У апошнія гады свайго жыцця М.Горкі больш за іншыя любіў песню „Вярніся ў Сарэнта".

**З даклада**

„У гэтым годзе працягласць жыцця пры сацыялізме дасягне 73 гадоў".

**З дакладной запіскі**

„Пастаўкі зерня краіне лепш за ўсіх выконваюць не падначаленыя аграпрому земляробы Дакоты і Аклахомы. Дык можа для дабра справы хутчэй вывесці з-пад яго ўплыву і астатніх?"

## САВЕЦКІ ПАЛІТЫЧНЫ АНЕКДОТ

— Ці змяя можа зламаць сабе хрыбет?

— Так, калі яна будзе паўзці, трымаючыся генеральнай лініі партыі.

*(Канец 1920-х)*

*

Калгаснікі не маглі зразумець, што такое пяцілетні план, і паслалі хадака ў абком. Інструктар доўга аб'яснёў, а потым падышоў да акна і сказаў:

— Вы бачыце аўтамашыну? Праз пяць гадоў іх будуць тысячы.

Выступаючы перад калгаснікамі хадок заблытаўся ў ліках, глянуў праз акно і ўбачыў замест машыны жабрака.

— Вы бачыце жабрака? — сказаў ён.

— Праз пяць гадоў замест аднаго жабрака ў нас іх будуць тысячы.

*(1930-я г.г., пачатак)*

*

Чалавек ідзе па вуліцы ў адным боце.

— Бот згубілі? — спачувальна пытаецца ў яго прахожы.

— Не, знайшоў.

*(1930-я г.г.)*

*

Для дзяржаўных закупак сельскагаспадарчай прадукцыі ў вёску прывезлі першыя савецкія сярэбраныя грошы. Вяскоўцы абступілі, глядзяць на грошы, хрысцяцца.

Настаяцель: — Чаго хрысціцеся? Грошы ж савецкія!

Мужыкі: — Грошы савецкія, але серабро, бацюшка, царкоўнае!

*(1924 г.)*

*

Зняволеныя расказваюць аб тым, хто за што сядзіць:

— Чаму цябе арыштавалі?

— Ананізмам займаўся.

— Няўжо гэта праступленне?

— Яшчэ якое: сказалі, што я разбазарваў насенны фонд.

*(1930-я г.г.)*

## ПЕСЕНЬКА ПРА НЕФАРМАЛАЎ

Непарадак і анамалія —
Не заўважылі, як і калі
Нефармальныя-ненармальныя
Расцугляліся, волю ўзялі.
То пісьменнікі, спрэс апальныя,
То студэнцікі — жменя, а ўсё ж
Нефармальныя-разбуральныя
Нас, уладных, не ставяць ні ў грош.
Годзе, кажуць, ім кашы маннае,
Прысалоджанай досыць маны...
Нефармальныя-непрымальныя,
Вас бы пугай ніжэй ад спіны!
Толькі дзе яны, памінальныя,
Насталыгічна-былыя часы?..
Нефармальныя-наступальныя
Далятаюць да нас галасы.

**АЛЕСЬ КАСКО**

## ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ

*Музыка Зміцера Яўтуховіча*
*Словы Алеся Бадака*

Даль пратораў, сонца поўная,
Сінь азёр і шыр палёў.
Беларусь, краіна, сэрцу родная, —
Наша слава і любоў.

Ты нямала гора зведала,
Праліла нямала слёз.
На зямлі заўсёды разам з кветкамі
І палын тут горкі рос.

Новы дзень над шумнай ніваю
Запаліў ужо зару.
Дык жыві свабоднай і шчасліваю,
Дарагая Беларусь!



************************************************************************



„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.